


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

14 СНЕЖНЯ 2001г. № 50/4132 КОШТ 138 РУБ.






*Зімовая пастараль...* *Фота Ю. ЗАХАРАВА*



# КОЛА ДЗЁН

*Сталася так, што ці не кожны дзень гэтага лімаўскага тыдня меў пазнаку, так бы мовіць, юбілейнасці.*

*8 снежня. Дзесяць гадоў назад у гэты дзень былі падпісаны ў Віскулях дакументы, што паставілі кропку над існаваннем СССР і абвясцілі стварэнне СНД — новай супольнасці былых савецкіх народаў, якая, на жаль, так і не выявіла пакуль што сваёй сапраўднай жыццядзейнасці і эфектыўнасці.*

*9 снежня. Гэты дзень прынёс з сабою журботную згадку аб тым, што 60 гадоў таму назад пад акупаваным Мінскам у Трасцянцы запрацавала фашысцкая "фабрыка смерці" — адзін з самых жахлівых (па колькасці і пакутах ахвяр) канцлагераў на Беларусі, у якім знайшлі смерць сотні тысяч беларусаў, яўрэяў, рускіх, палякаў і іншых беларускіх патрыётаў.*

*10 снежня. Гэты дзень пазначаны ў календары як Дзень правоў чалавека. Абвешчаны ён ААН зусім невыпадкова, бо яшчэ і дасюль у многіх кутках і краінах свету людзі не маюць належных правоў і магчымасцяў жыць па-чалавечы годна і шчасліва.*

*11 снежня. Споўнілася тры месяцы з дня трагедыі ў Нью-Йорку, якая змусіла свет скалануцца ад жаху і падштурхнула шукаць новыя формы сусветнага супрацоўніцтва ў барацьбе з агіднай і бязлітаснай пачвараю — міжнародным тэрарызмам.*

*12 снежня...*

*Ды, бадай, хопіць. І без таго атрымліваецца сумны, проста-такі тужлівы кругабег дзён. А яны ж і самі па сабе невясёлыя, гэтыя снежаньскія, кароткія, як вераб'іны скок, дні...*

### ГІПЕРМАРКЕТ ТЫДНЯ

І мы, аказваецца, умеем не толькі лапці плесці! І ў нас будуць, як і ў хвалёнай Амерыцы, гіпермаркеты — гіганцкія, на дзесяткі тысяч квадратных метраў, магазіны, у якіх можна купіць літаральна ўсё, оптам і ў розніцу. І не толькі купіць, але й адпачыць, паабедаць, падстрыгчыся і навесці марафет, паглядзець кіно і паслухаць канцэрт. Аб рэалізацыі унікальнай праграмы стварэння дзесяці гіпермаркетаў у Мінску аб'яўлена афіцыйна. Кажуць, што ўжо ёсць і інвестары, якія гатовы ўкласці грошы ў будаўніцтва першага супермагазіна. Да сустрэчы на яго просторах, спадарове?

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Як жывецца ў краінах СНД? Найбольш аб'ектыўна гавораць пра гэта лічбы статыстыкі. Горш за ўсё справы — у Кіргізіі і Таджыкістане. Калі з цэнамі ва ўсіх краінах больш-менш аднолькавая сітуацыя (розніца яны неістотна), дык паміж зарплатамі — разрыў велізарны. Самы высокі ўзровень — у Казахстане (3700 расійскіх рублёў), у Расіі — 3500, у Беларусі — 2700 і на Украіне — 1800 тых жа расійскіх рублёў, дык у Кіргізіі — 920, а ў Таджыкістане — наогул усяго 374 рублі. Мы сярод іншых, паводле лічбаў, выглядаем няблага — зарплата, праўда, меншая, чым у Казахстане і Расіі, але затое кошт ялавічыны, малака і бульбы амаль удвая меншы, чым у іх. І ўсё ж адна лічба бянтэжыць. Калі ва ўсіх дзесяці краінах СНД цэны са снежня 2000 года практычна не выраслі (103,6 працэнта ў Казахстане, 113,2 — у Расіі, 103,3 — на Украіне, 99, 1 — у Азербайджане), дык у нас — ажно 125,3 працэнта. Як кажуць, ёсць пытанне? Ёсць...

### ЯКАСЦЬ ТЫДНЯ

"Якасць павінна стаць нашай нацыянальнай ідэяй", — заявіў прэм'ер-міністр Беларусі Г. Навіцкі, уручаючы ў аўторак прэміі ўрада краіны лепшым вытворцам тавараў і паслуг 2001 года за дасягненні ў галіне якасці. Якасць прадукцыі, вядома, добры паказчык. Гэта і яе канкурэнтаздольнасць на знешніх рынках, гэта і стымул для прыцягнення ў краіну інвестыцый. Якасць, як любіў гаварыць Уладзімір Ільіч, архіважная штука. Ды толькі, здаецца, яна ўсё ж не цягне на тое, каб стаць нацыянальнай ідэяй. Нават з вялікай нацяжкай...

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Споўнілася 5 гадоў знаходжання на беларускім рынку вядомай амерыканскай кампаніі "МакДональдс". З гэтай нагоды ў Мінск прыбыў расійскі "кароль фаст-фуда" — кіраўнік "МакДональдса" ў Расіі Хамзат Хасбулатаў. З верасня гэтага года яму перададзена кіраванне беларускімі рэстаранамі "МакДональдс". Х. Хасбулатаў пра апошнія сказаў, што па наведвальнасці яны сёння — першыя ў свеце. Мо яно й сапраўды так: чэргі там — заўсёдныя. Толькі ці ахоплівае ўсіх нас радасць і з нагоды гэтых чэрг, і гэтае юбілейнае пахвалы?

### ДАЎЖНІКІ ТЫДНЯ

Сельскагаспадарчыя прадпрыемствы Беларусі аплачваюць толькі 40 працэнтаў спажываемай энергіі. Паводле інфармацыі прэс-службы канцэрна "Белэнерга", даўгі гэтай катэгорыі спажыўцоў дасягнулі амаль 350 мільярдаў рублёў, што складае прыкладна 61 працэнт усёй запазычанасці канцэрну. Восень, калі ў калгасах паяўляліся сякія-такія грошы за сабраны ўраджай, не дапамагла аплаціць даўгі. Тым больш не паспрыяе гэтаму зіма. Значыць, будуць адключэнні? Што чакае ў такім выпадку і без таго ляжачыя (наватвор!) "калектыўныя гаспадаркі"?

### КАНКУРЭНТ ТЫДНЯ

Да гэтага часу ў Беларусі быў адзін аператар мабільнай сувязі — кампанія "Velkom". Колькасць яе абанентаў пераваліла за 100 тысяч. Кампанія, паводле слоў яе кіраўніка М. Юшкевіча, арыентавалася не толькі на багатых людзей, але й на так званы сярэдні клас — на тых, хто можа плаціць за свой мабільнік у месяц 20-30 долараў. Ці шмат набярэцца такіх у краіне? І вось зараз у Беларусі прыступае да працы буйнейшы аператар сотавай сувязі Расіі "Мабільныя ТэлеСістэмы" (МТС). У бліжэйшыя пяць гадоў МТС плануе забяспечыць мабільнымі тэлефонамі 500 тысяч беларусаў. МТС разлічвае пераманіць на свой бок не толькі сярэдні клас, але і прывучыць да мабільнікаў так званых сацыяльных кліентаў — студэнтаў і пенсіянераў. Што ж, у добры шлях, як кажуць. Канкурэнцыя яшчэ ніколі не шкодзіла спажыўцам, гэта значыць, большыні людзей.

### НАГОДА ТЫДНЯ

Гомельскі, Чачэрскі, Рэчыцкі, Веткаўскі і Лоеўскі раёны адзначылі 75-годдзе свайго ўтварэння як адміністрацыйных тэрыторый, перададзеных з РСФСР БССР у выніку яе другога ўзбуйнення ў 1926 годзе. Сяды-тады згадваецца і першае ўзбуйненне — у 1924 годзе, калі ў склад тадышняй БССР былі перададзены некаторыя раёны цяперашніх Віцебскай і Магілёўскай абласцей. Юбілеі раёнаў на Гомельшчыне — нагода прыгадаць, што калісьці справядлівасць, як кажуць, узяла верх. А вось успомніць неаднаразовыя выпадкі, калі наша спрадвечная тэрыторыя рэзалася па-жываму і перадавалася без нашага ведама-спросу суседзям, дык і нагоды няма. Ужо нават нібыта й сорамна прыгадваць, што калісьці ў межы Беларусі ўваходзілі ладныя тэрыторыі і на захадзе, і на ўсходзе, і на поўначы, дзе сёння ўжо мала слядоў таго, што некалі там спрадвеку жылі беларусы...

### НАБАТ ТЫДНЯ

Кароткая, сухая, цалкам пазбаўленая эмоцый газетная інфармацыя аб тым, як ледзь не загінула пяцікласніца Гарадоцкай сярэдняй школы, што на Віцебшчыне: яна вярталася дадому з вясковай дыскатэкі і заснула марознай ноччу на шашы. Чаму заснула? Дзяўчынка, як пішуць у міліцэйскіх пратаколах, "была ў стане алкагольнага ап'янення". І пра такі факт — спакойна і адасоблена, як пра нешта звычайнае і будзённае?! Што з намі сапраўды адбываецца, добрыя людзі? Чаму маўчыць набат, не крычыць крыкам болю аб вялікай нашай бядзе, якая ўжо і не бяда нават, а самая што ні ёсць трагедыя? Хто нарэшце ўдарыць у яго?

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Сёння ў сталічным Доме літаратара завяршаецца семінар перакладчыкаў. Размова ідзе аб праблемах перакладу твораў беларускіх пісьменнікаў на мовы свету, аб стане ўзаемасувязяў суседніх літаратур. Уступным словам міжнародны форум адкрыла старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава. З дакладамі выступілі Іван Чарота, Вячаслаў Рагойша, Тацццяна Кабржыцкая, Валеры Стралко, Уладзімір Аляхновіч, Лявон Баршчэўскі, Яўген Каршукоў і іншыя.

У госці да беларускіх калег прыехалі пісьменнікі з Расійскай Федэрацыі — першы сакратар Саюза пісьменнікаў Масквы Рыма Казакова, галоўны рэдактар часопіса "Дружба народов" Аляксандр Эбаноідзе, паэт Уладзімір Леванові.

Перакладчыкі павінны сустрэцца з галоўнымі рэдактарамі літаратурна-мастацкіх выданняў і кіраўнікамі выдавецтваў, прымуць удзел у "круглым стале", вечарыне дружбы. Падрабязная справаздача пра семінар будзе апублікавана.

●

Вечарына-прэзентацыя паэтычнага зборніка маладога паэта Аляксея Ломцева "Тень и свет" адбылася ў вялікай зале Дома літаратара. Вершы аўтара чытала дыктар Беларускага радыё Святлана Шушакова. Прагучала літаратурна-мастацкая кампазіцыя на вершы А. Ломцева, з якой выступіла аўтар і выканаўца рамансаў і песень Галіна Скіба.

●

У пісьменніцкай бібліятэцы сабраліся прыхільнікі таленту маладой паэткі Тацццяны Ахрэмчык. Яна — аўтар публікацый у расійскай і беларускай перыёдыцы, а таксама кніг вершаў "Неумолкай-град" і "Я себе придумываю жизнь". Цёплыя словы на адрас Т. Ахрэмчык выказала паэтка Наталля Кучмель.

І, канешне ж, гучалі вершы Тацццяны ў яе ўласным выкананні, цёпла ўспрынятыя прысутнымі.

**Н. К.**

# Гаварылі пра Зарэцкага

4 снежня ў Доме літаратара прайшла вечарына, прысвечаная 100-годдзю беларускага пісьменніка Міхася Зарэцкага (Міхася Яфімавіча Касянкова). Вёў яе Н. Гальпяровіч, намеснік старшыні праўлення СП. Ён адзначыў, што пісьменнікі разам з супрацоўнікамі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры працягваюць добрую традыцыю святкавання юбілеяў і ўшанавання памяці пісьменнікаў... Міхась Зарэцкі — адзін з выдатных беларускіх празаікаў 1920—30-х гг., пісьменнік арыгінальнага, самабытнага таленту, чалавек шырокай эрудыцыі і прагрэсіўных поглядаў на жыццё.



Выступілі член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук, доктар філалогіі, прафесар М. Мушынскі, літаратуразнаўца, навуковы супрацоўнік Музея гісторыі беларускай літаратуры, навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры НАН Э. Золава.

М. Пратасевіч у сваім выступленні адзначыў, што М. Зарэцкі быў схільны да рамантычнага ўспрымання рэчаіснасці, але асуджальна ставіўся да перагібаў у паводзінах людзей (і сваіх герояў), што ён — пісьменнік-гуманіст, у творах якога прыгожая сімволіка, маляўнічыя карціны прыроды, стылістычна багатая мова.

Артысты з ансамбля "Менскі гармонік" парадавалі ўдзельнікаў вечарыны выкананнем народных замалёвак і песень на словы беларускіх паэтаў.

Выступіла на вечарыне дачка М. Зарэцкага Радаміра Міхайлаўна. Ад сябе і ад імя прысутных у зале сваёй дачкі Ларысы Львоўны, унукаў пісьменніка — Міхаіла Усяслававіча (сына яе брата Усяслава) і ўнука Антона шчыра дзякавала пісьменнікам, супрацоўнікам музея, навукоўцам і артыстам за актыўны ўдзел ва ўшанаванні памяці яе бацькі.

**Эмілія П.**

СВЯТЫ

# Ты вышэй ад усіх, Страцім!

Так называлася вечарына ўшанавання памяці Максіма Багдановіча да 110-ых угодкаў яго народзінаў, якая адбылася 9 снежня ў сталічным Палацы дзяцей і моладзі. У гэты дзень у Мінску быў моцны мароз. Міжволі на памяць прыходзілі радкі з вядомага верша паэта: "Здароў, марозны, звонкі вечар!" Ды не забаяліся прыхільнікі высокага таленту нечаканых зімовых халадоў. Як матылькі, яны "зляцеліся" на свята і цяпло песняра чыстае красы. У перапоўненай кіназале палаца, як мне падалося, не было ніводнага выпадковага чалавека. Адно толькі аматары высокай паэзіі, сапраўдныя спадкаемцы духоўнай спадчыны паэта, сярод якіх: моладзь, людзі сярэдняга і сталага веку. Адным словам — "букет" нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Кожны пачуваў сябе, як у дружнай вялікай беларускай сям'і, што сабралася на сустрэчу з сваім Сынам. Атмасферу прысутнасці самога Багдановіча ствара ла азадаленне сцэны: дыван-карціна Аляксея Марачкіна "Страцім-лебедзь", якую ён намаляваў яшчэ да 90-ых угодкаў паэта, 20 гадоў таму, і апгымістычны фотапартрэт Максіма-гімназіста.



Рэй на гэтай вечарыне вёў Эдуард Акулін. Напачатку ў яго выкананні прагучала песня на верш Багдановіча і пранікнёныя словы паэта пра паэта: "Беларускі народ — вялікі народ. Вялікі ўжо толькі за тое, што ў нас ёсць Максім Багдановіч — паэт, Богам дадзены, геній нацыянальнай літаратуры. Госцем з высокіх нябёс калісьці назваў Максіма Багдановіча яго сябра Аркадзь Смоліч. Гэта самае трапнае, самае ўдалае параўнанне. Сапраўды, усім сваім жыццём, усёй сваёй творчасцю Максім нібыта лунае над светам. Недасягальны. Незямны. Вось чаму перадусім яго вобраз для нас асацыіруецца з непакорным Страцім-лебедзем. Максім і ёсць Страцім-лебедзь нашай беларускай паэзіі. І чым больш мінае часу, "чым больш сыходзіць дзён, начэй, тым імя мілае вышэй". Тым вышэй, тым даражэй для нас сам паэт.

Максім Багдановіч — адзін з апосталаў беларускага Адраджэння. Ён паклаў сваё жыццё на алтар прыгажосці Беларусі. І калі кажуць, што Максім Багдановіч памёр ад сухотаў, — не верце. Максіма да смерці высушыла бязмежная любоў да Беларусі. Але сапраўдныя паэты не паміраюць, яны ўвесь час нараджаюцца ў кожным з нас, у кожным сэрцы, у нашых духоўных памкненнях. Дык будзем жа іх шанаваць. З днём нараджэння, Максім! З днём народзін, Арфей беларускай песні!"

Пасля прамаўлялі, разважалі, чыталі Багдановічавы і свае ўласныя вершы знакамітыя паэты: Анатоль Вярцінскі, Сяргей Панізнік, Леанід Дранько-Майсюк, Антаніна Хатэнка. Цікава было даведацца, што на дзень народзінаў Максіма прыпадаюць 105-я ўгодкі яго нага ад'езду, разам з бацькамі, у Расію. І яшчэ адна дата, яшчэ адно супадзенне, на гэты раз прыемнае: споўнілася 85 гадоў ад часу напісання паэтам свайго галоўнага верша "Пагоня".

Прамоўцы саступалі месца слынным бардам. Алесь Камоцкі, Зміцер Сідаровіч, Аляксей Галіч, Кастусь Герашчанка ў гэты святочны вечар шчодра прэзентавалі песні на вершы Максіма Багдановіча і на свае ўласныя. Упершыню ў выкананні Кастуся Герашчанкі прагучала песня на словы Эдуарда Акуліна "Максім, не вяртайся!". Народныя песні спявала Наталля Матыліцкая. Надзіва дружна ўсім ім дапамагала зала. Абыякавых — не было.

І меў рацыю Леанід Дранько-Майсюк, які зазначыў: "Мы багатыя і шчаслівыя, што ў нас ёсць Багдановіч як класічна-трагічнае ўвасабленне нашай беларускай вечнасці." І дзякуй Богу, што ў Максіма шмат вартых яго нашчадкаў. Дык "нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?"

**Ірына ЛЯКСЕЕВА**

ЮБІЛЕІ

# Свята фальклору

Юбілейны для Беларускага дзяржаўнага універсітэта год пазначаны яшчэ і 20-годдзем навукова-даследчай лабараторыі фальклору філалагічнага факультэта, якой кіруе вядомы фалькларыст, прадаўжальнік справы Р. Шырмы і Г. Цітовіча Васіль Ліцвінка. Два дзесяткі гадоў плённа працуюць супрацоўнікі лабараторыі, студэнты і выкладчыкі філфака, па калівах збіраючы па ўсёй Беларусі найкаштоўнейшы скарб — узоры вуснай народнай творчасці. Работа па апрацоўцы і захаванні яе вядзецца на навуковай аснове, па сістэме, распрацаванай матэматыкам А. Бураўкіным, які абараніў доктарскую дысертацыю па культуралогіі.

Павіншаваць фалькларыстаў лабараторыі з юбілеем прыехалі прадстаўнікі многіх раёнаў рэспублікі — ад Прынямоння да Віцебскага Паазер'я, ад Палесся да Падняпроўя. Васіль Ліцвінка толькі паспяваў прымаць шматлікія прывітальныя адрасы ды падарункі, рэагаваць на выступленні фальклорных калектываў мастацкай самадзейнасці: "Асалоды" з Барысаўшчыны, народнага хору калгаса "Новае жыццё" з Жыткавіцкага раёна, узорнага дзіцячага ансамбля "Гасцінец" з мінскай школы № 102, "Медуніцы" з Лёзна, "Ліцвінаў" і "Тутэйшай шляхты" з БДУ, "Грамніц" і "Гармоніка" з універсітэта культуры ды іншых слынных калектываў. Гэта быў сапраўдны фэст беларускага фальклору.

Юбіляраў віншавалі кіраўнікі ўпраўленняў Міністэрства культуры рэспублікі Т. Стружэцкі і А. Бабіцкі, першы прарэктар БДУ А. Яноўскі, А. Баршчэўскі з Варшаўскага універсітэта.

Так склалася, што ў гэтыя дні свае юбілеі святкавалі і супрацоўнікі лабараторыі фальклору: Васіль Ліцвінка і Мікола Котаў — 60, Анатоль Літвіновіч — 50 гадоў. Плённая работа іх на карысць універсітэта і наогул беларускай культуры была адзначана Ганаровымі граматамі Белдзяржуніверсітэта, Мікола Котаў да таго ж узнагароджаны Ганаровым знакам пашаны Міністэрства культуры.

**Васіль ФЕРАНЦ**



*На здымку: Васіль Ліцвінка; хлопцы з "Гасцінца".*



ВІНШУЕМ!

# "Філіп Морыс" ганаруе...

Мінулы нумар "ЛіМа" выйшаў у свет літаральна за некалькі гадзін да пачатку ўрачыстай цырымоніі ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета Беларусі. Нам не хацелася загадзя рассакрэчваць імёны галоўных герояў імпрэзы, якую штогод рыхтуе ў гонар дзеячаў беларускага харэаграфічнага мастацтва прадстаўніцтва кампаніі "Філіп Морыс Менеджмент Сервісез Б. В". Сёння гэта — не сакрэт. Пра тое, каго ганаравала сваёй прэстыжнай узнагародай вядомая кампанія, ведае ўжо ўся краіна.

Такім чынам, у намінацыі "Жыццё ў мастацтве", устаноўленай у 2000 годзе для ветэранаў харэаграфічнай сцэны, незалежнае журы на чале з мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Валянцінам Елізар'евым вылучыла Юрыя Траяна. Народны артыст Беларусі, ён быў у свой час вядучым салістам тэатра, сёння застаецца яго жывой легендай і ярка, паспяхова раскрываецца ў педагагічнай дзейнасці.

Прэмія "Філіп Морыс-Дэбют" уручалася сёлета пяты раз. І гэтым разам яе лаўрэатам названа Вольга Гайко — маладая салістка тэатра. Выпускніца Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа, яна мае бліскучую тэхніку, цудоўную сцэнічную знешнасць, выразны акцёрскі талент. Вольга прыйшла ў тэатр чатыры гады таму, але ўжо лічыцца адной з вядучых балерын. У яе рэпертуары — галоўныя партыі ў спектаклях "Лебядзінае возера", "Дон Кіхот", "Эсмеральда", "Жар-птушка", "Пацалунак-феі", "Макбет"... Прэміяй "Філіп Морыс-Дэбют" Вольга Гайко ганараваная за выкананне партыі прынцэсы Аўроры ў балеце "Спячая прыгажуня", які быў паказаны адразу пасля цырымоніі ўзнагароджвання лаўрэатаў.

Дарэчы, сама цырымонія прайшла дынамічна і ўрачыста, з удзелам старшыні журы, народнага артыста СССР Валянціна Елізар'ева ды прадстаўніка "Філіп Морыс Менеджмент Сервісез Б. В." Ігара Альхімовіча. Было прыемна яшчэ раз пераканацца, што прадстаўніцтва вядомай кампаніі не толькі падтрымлівае беларускае харэаграфічнае мастацтва, але дапамагае іншым, хто мае ў гэтым асабліва вострую патрэбу. Дабрачынная праграма кампаніі складаецца з шэрагу праектаў — ад спонсарскай дапамогі ў адкрыцці да развіцці сацыяльных дзіцячых прытулкаў у Брэсце і Гомелі да фінансавай падтрымкі Мінгарвыканкама ў адкрыцці першага начлежнага дома для беспрытульных.



Сваёй дзейснай увагай да балетнага мастацтва, прадстаўнікі якога ў нас, на жаль, належаць да малазабяспечаных пластоў сталічнага насельніцтва, "Філіп Морыс" абвяргае ўстойлівую думку пра тое, што камерцыя і творчасць паразумецца не могуць. Аказваецца — могуць!

**С. Б.**

*На здымку: уладальнікі прэмій — народны артыст Беларусі Ю. ТРАЯН і салістка балета В. ГАЙКО*

*Фота М. ПРУПАСА*

# Канферэнцыя ў БДПУ

На факультэце народнай культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка 6—7 снежня прайшла Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Народныя традыцыі і нацыянальная культура". Ініцыятыву загадчыка кафедры этналогіі і фалькларыстыкі прафесара Віктара Цітова актыўна падтрымаў рэктар універсітэта, акадэмік АПН Леанід Ціханаў, які і ўзначаліў аргкамітэт.

Працу канферэнцыі аздабляла цікавая выстаўка дыпломных работ і мастацкіх твораў студэнтаў кафедры мастацкай і педагагічнай адукацыі. На пленарным пасяджэнні з прывітальным словам да ўдзельнікаў і гасцей звярнуўся рэктар Леанід Ціханаў. Ён засяродзіў увагу на распачатую факультэтам вялікую працу па прапагандзе народных традыцый і нацыянальнай культуры і зазначыў, што ад засваення нацыянальных традыцый залежыць наша будучыня, і гэта канферэнцыя мае асаблівае значэнне, яна робіцца значнай падзеяй у жыцці універсітэта і іншых ВНУ рэспублікі. Такую пазіцыю паспяхова пацвердзілі сваімі дакладамі: В. Цітоў (БДПУ) "Народныя традыцыі: сутнасць, гісторычныя вытокі, сучасныя праблемы", Я. Сахута (НАН РБ) "Сучаснае народнае мастацтва: асаблівасці бытавання і тэндэнцыі развіцця", З. Шыбека (БДПУ) "Нацыянальная культура: сутнасць, спецыфіка і праблемы развіцця", А. Трусаў (БДУК) "Праблема захавання гістарычнай памяці (могілкі як помнікі нацыянальнай культуры)". На трох секцыях гэтай канферэнцыі было прачытана амаль 70 дакладаў і паведамленняў удзельнікамі з Мінска, Брэста, Віцебска, Гомеля, Магілёва, Мазыра, Полацка, Бабруйска. Па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета БДПУ пад рэдакцыяй праф. В. Цітова выйшла першая кніга матэрыялаў канферэнцыі. Неўзабаве выйдзе другая кніга як сведчанне жыццёвасці распачатай справы і яе перспектыўнага развіцця.

**Яўген АДАМОВІЧ**



*На здымку: пасяджэнне адкрывае акадэмік Л. Ціханаў.*

*Фота У. КРУКА*

АБСЯГІ

ГРОДЗЕНШЧЫНА...

## Пераможцы паедуць у Беласток

Дом-музей А. Міцкевіча, што ў Навагрудку, вітаў днямі ўдзельнікаў дзесятага Усебеларускага конкурсу чытальнікаў імя славутага паэта. Сюды з'ехаліся школьнікі з Мінска, Брэста, Гродна, Пінска, Ліды, Браслава... Арганізатар мерапрыемства — грамадскае аб'яднанне "Польска мацеш школьна". Намеснік старшыні яго праўлення Т. Крышань адзначае, што трапіць на заключны тур у Навагрудак было надта складана. Амаль з тысячы вучняў у фінал выйшла толькі 28. А перамаглі ў конкурсе дзесяць чытальнікаў. Яны і прадставяць Беларусь на міжнародным конкурсе чытальнікаў імя А. Міцкевіча, які адбудзецца ў Беластоку.

**Яўген ЛАПЦЕЎ**

БРЭСТЧЫНА...

## Сквер памяці героя

Не толькі на Брэстчыне, але й далёка за яе межамі ведаюць пра подзвіг першага героя Беларусі Уладзіміра Карвата. А здзейсніў ён яго 23 траўня 1996 года, калі цаною ўласнага жыцця адвёў палаючы самалёт ад вёсак Арабаўшчына і Гацішча Баранавіцкага раёна. Удзячныя жыхары заклалі мемарыяльны знак, а адну з вуліц Баранавічаў назвалі імем героя. А нядаўна ў горадзе насупраць будынка школы міліцыі закладзены сквер памяці героя. У хуткім часе на яго тэрыторыі будзе ўстаноўлены памятны камень.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ**

ГОМЕЛЬШЧЫНА...

## Танцы Рыбальчанкі

На сцэне абласнога драматычнага тэатра адбылося свята танца, прысвечанае 90-годдзю з дня нараджэння вядомага балетмайстра, народнага артыста Беларусі, ганаровага грамадзяніна Гомеля Аляксандра Рыбальчанкі. У праграме свята — танцы, пастаўленыя Аляксандрам Аляксеевічам, харэаграфічныя кампазіцыі ў выкананні лепшых самадзейных калектываў горада, выступленні асобных музыкантаў.

## Гаворыць мовай пейзажа

Іван Фірсак — майстра пейзажнага жанру. На ягоных палотнах — беларуская прырода, марскія матывы. Зараз у абласным цэнтры народнай творчасці адкрылася персанальная экспазіцыя работ Івана Васільевіча.

## Зборнікі ў падарунак

Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін — часты госць гамяльчан. Ён у чарговы раз сустрэўся з чытачамі ў мясцовым дзяржуніверсітэце і абласной універсальнай бібліятэцы. Пісьменнік чытаў вершы, падзяліўся ўспамінамі пра Анатоля Грачанікава і Уладзіміра Караткевіча. Удзельнікі сустрэчы маглі набыць зборнікі Рыгора Іванавіча з аўтографамі аўтара.

## Іх ведаюць у Тайвані

Гомельская сярэдняя школа № 19 з архітэктурна-мастацкім ухілам адзначыла 65-годдзе. Школьнікі з поспехам займаюцца тут малюнкам, кампазіцыяй, жывапісам, разьбой па дрэве, вышыўкай, пастаянна ўдзельнічаюць у выставах. Работы навучэнцаў адзначаны залатым і сярэбраным медалямі на міжнароднай выставе ў Тайвані. З нагоды юбілею ў школе арганізавана чарговая выстава работ навучэнцаў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ВІЦЕБШЧЫНА...

## Працягваюць справу Шагала

Віцебскае вучэльні мастацтваў споўнілася 30 гадоў. З гэтай нагоды адбылася выстава работ навучэнцаў 2—4 курсаў аддзяленняў жывапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Выстава арганізавана ў абласным краязнаўчым музеі.

**Канстанцін КАРНЯЛЮК**

## Завяршыўся фестываль

У Віцебску завяршыўся 13 міжнародны музычны фестываль імя І. Салярцінскага. На гэты раз ён быў прысвечаны 95-годдзю Д. Шастаковіча. Дапамогу ў арганізацыі мерапрыемства аказалі Беларускі саюз музычных дзеячаў, Беларускі саюз кампазітараў, Польскі інстытут у Мінску, Пецярбургскі фонд імя Шастаковіча, які ўзначальвае сын Івана Салярцінскага — Дзмітрый. Менавіта ён рэпрэзентаваў на ўрачыстым адкрыцці фестывалю маладых салістаў Марыінскага тэатра оперы (Санкт-Пецярбург), вядучага зараз на абсягах СНД. У канцэрце "Шэдэўры опернай класікі" на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа прагучалі творы Вердзі, Расіні, Пучыні. Актыўны ўдзел у фестывалі бралі і польскія выканаўцы і кампазітары. Адзін з канцэртаў мінскага ансамбля "Класік-Авангард" называўся "Кампазітары Кракаўскай школы", якія зараз вельмі плённа працуюць на радзіме вялікага Шапэна.

У наступным годзе віцябляне рыхтуюцца адзначыць 100-годдзе вядомага земляка, музыказнаўцы Івана Салярцінскага.

## Новыя кнігі

У абласным цэнтры выйшлі дзве новыя кнігі: "Карабель мой блакітна-зялёны" — вершы і паэмы вядомага на Віцебшчыне журналіста Алеся Шпыркова; "Тени бледной луны" — апавяданні і п'есы інжынера Генадзя Катлярова. Аўтар паэтычнага зборніка разважае пра захаванне жыцця на зямлі, закранае экалагічныя і маральныя праблемы. У зборніку — тры паэмы і паэтычная хроніка "Крокамі легенды", у якой Шпыркоў згадвае час будаўніцтва наваполацкіх гігантаў нафтахіміі. У зборніку Катлярова, апрача прозы, змешчаны дзве п'есы.

**Святлана ГУК**

МІНШЧЫНА...

## Лепшы бібліятэкар

У цэнтральнай раённай бібліятэцы Дзяржынска прайшоў традыцыйны конкурс прафесійнага майстэрства "Лепшы бібліятэкар". Супрацоўнікі трымалі экзамен у літаратурных і прафесійных ведах, у музыцы і краязнаўстве. Пераможцай конкурсу стала Анжэла Талстая — бібліятэкар бібліятэчнага філіяла № 33.

## Майстар пакарыў Малдову

Дзяржынец Андрэй Мяцельскі — народны майстар, які займаецца ганчарствам і саломапляценнем. Ён удзельнічаў у міжнародным кірмашы народна-мастацкіх вырабаў "Тэзуар-2001", які праходзіў у Рэспубліцы Малдова. Тамтэйшыя жыхары вельмі зацікавіліся беларускімі рамёствамі. Не толькі любаваліся вырабамі нашага майстра, але і з вялікай ахвотай іх раскуплялі.

**Тамара ШАЎЧЭНКА**

***Мінула дзесяць гадоў, як з карты свету знікла назва СССР. Сёння той гістарычны факт ацэньваецца былымі яго грамадзянамі па-рознаму. Адны лічаць яго самым светлым момантам у сваім жыцці, іншыя самым драматычным.***

***Непасрэдным удзельнікам драматычных падзей апошніх гадоў існавання СССР быў наш зямляк, былы Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Георгій Станіслававіч Таразевіч. Воляю лёсу яму давялося займаць у тыя гады даволі ўплывовую ў іерархічнай сістэме СССР пасаду старшыні камісіі Вярхоўнага Савета СССР па справах нацыянальнасцяў. Гутарку з ім пра той час мы і прапануем увазе нашых чытачоў.***

# Ці былі Віскулі нечаканасцю?

**— Георгій Станіслававіч, сёння даследчыкамі апошніх дзён гісторыі СССР шмат увагі надаецца віскулёўскай сустрэчы. Але, як вядома, распад Савецкага Саюза не адбыўся вокамгненна. Яшчэ да Віскулёў было некалькі вельмі знакавых драматычных падзей у лёсе вялікай краіны, якія засведчылі, што сітуацыя ў ёй ужо выйшла з-пад кантролю Масквы. На думку многіх аналітыкаў, менавіта яны сталіся тымі завяршальнымі «падземнымі» штуршкамі, якія моцна пахіснулі, а ўрэшце і ўвогуле разбурылі найвялікшую за ўсю гісторыю існавання чалавечай цывілізацыі дзяржаўную будынукалос. Першы быў у Тбілісі ў красавіку 1989 года, калі ўпершыню за перабудовачныя часы пралілася чалавечая кроў. Потым яшчэ больш крывавы снежань 1990 года ў Баку...**

**І апошнім «званочкам» былі, бадай што, студзеньскія падзеі ў сталіцы Літвы Вільні. Калі не памыляюся, то якраз вы былі кіраўніком дзяржаўнай камісіі па расследаванні тых падзей у сталіцы нашых суседзяў?..**

— Так, якраз мяне паслаў у Вільню Гарбачоў, каб разабрацца ў сітуацыі. І, на мой погляд, свае функцыі я тады выканаў цалкам. Мне ўдалося тады не дапусціць увядзення ў гэтым горадзе надзвычайнага становішча, а значыць, яшчэ большага распальвання канфлікту, яшчэ больш сур'ёзнага кровапраліцця. Па вяртанні я зрабіў падрабязны даклад Гарбачову. Памятаю, што падчас даклада ён быў нечым моцна ўзрушаны і, як падалося, успрымаў мяне неадэкватна. Відавочна, што тады якраз і разгаралася на самым версе кульмінацыя жорсткай барацьбы за ўладу, у ходзе якой Прэзідэнт рабіў сваім апанентам адну саступку за другой. Што, на мой погляд, і скончылася ўрэшце ГКЧП і Віскулямі. Я думаю, што літоўскія падзеі былі адным з ключавых звёнаў той барацьбы. І хоць тады, у студзені 1991 года, Гарбачоў коштам неверагодных высілкаў змог утрымаць сітуацыю, але гэта была ягоная піра перамога. Пасля Вільні ён стаў усё больш вагацца пры прыняцці рашэнняў, чым і карысталіся яго апаненты і акружэнне. Гарбачоў станавіўся ўсё менеі упэўнены ў сабе і паступова ўвогуле аказаўся не ў стане рэальна кіраваць сітуацыяй у краіне.

**— Скажыце, а калі ў вас асабіста з'явілася адчуванне, што магутная краіна пачынае разбурацца?**

— А вось якраз пасля майго віленскага даклада Гарбачову... Пасля падзей у Вільні Прыбалтыка, Украіна, Закаўказзе пачалі ўсё больш настойліва імкнуцца да «разводу» з СССР. Паколькі той «развод» станавіўся няўхільным, яго трэба было правесці як мага больш цывілізавана, з найменшымі стратамі. І такая лінія ў акружэнні Гарбачова, як вядома, таксама была. Але яна, на жаль, не пераважыла ўрэшце... Дарэчы, і я пісаў не адну запіску Гарбачову на гэты конт, але на іх ніхто не зрэагаваў. А ўвогуле, апошнія паўгода праўлення Гарбачова было нейкае адчуванне яго агаломшанасці сітуацыяй. Мне здаецца, ён з яе так і не выйшаў. У складанейшы для краіны час ён стаўся няздатным прымаць важныя рашэнні.

Між тым Гарбачоў быў чалавечным, і гэта, безумоўна, паспрыяла таму, што развал такой вялізнай краіны адбыўся без вялікіх ахвяр, узрушэнняў, якія няўхільна спадарожнічаюць усім рэвалюцыйным часам. Словам, маштаб фігуры гэтага чалавека і яго рэальнае месца ў гісторыі ацэніць толькі час.

Віленскія падзеі ўпершыню вельмі выразна выявілі глыбокі раскол у вышэйшым кіраўніцтве СССР, што паспрыяла яго агоніі. Літаральна праз некалькі месяцаў пасля гэтых падзей Вільня заявіла пра сваю незалежнасць ад СССР. На з'ездзе народных дэпутатаў СССР, які тады адбываўся, я, як старшыня камісіі па справах нацыянальнасцяў, прапаноўваў прызнаць гэтую незалежнасць, бо ўжо было зразумела, што Літву не ўтрымаць. Калі б цэнтр усё ж паспрабаваў утрымаць яе сілай, то гэта была б, магчыма, не зусім Чачня, але нешта вельмі падобнае. Словам, трэба было годна выходзіць з сітуацыі і ратаваць тое, што яшчэ заставалася. Але з'езд тады адхіліў маю прапанову...

**— І ўсё ж такі, хто персанальна больш за ўсё павінен у развале Саюза? Чаму ён рухнуў так хутка? Няўжо той жа Гарбачоў не ведаў, урэшце, што за ягонай спіною рыхтуецца віскулёўская сустрэча?**

— На пытанне: «Хто вінаваты?» заўсёды адказваць прасцей, чым на пытанне «Што рабіць? ..." Што ж да Гарбачова, то ён ведаў пра магчымую сустрэчу ў Віскулях. Незадоўга да тых снежаньскіх падзей я папярэджваў яго. Гэта было дзесьці ў кастрычніку 1991 года. Толькі што быў выбраны Старшынёю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. Неяк ён запрасіў мяне да сябе ў Вярхоўны Савет на размову. Яна была даволі доўгай і закранала шмат праблем і саюзных, і беларускіх. І вось напрыканцы нашай размовы ён раптам спытаўся: «А што, калі я запрашу Ельцына на паляванне ў Белавежскую пушчу?».

**— Відаць, спаў і думаў , як разваліць СССР?..**

— Мяркую, што Шушкевіч тады проста хацеў бліжэй пазнаёміцца са сваім калегам — кіраўніком найбольшай саюзнай рэспублікі. Я не знайшоў тады ў гэтай ідэі нічога крамольнага і адказаў: «Чаму ж не ?..»

Праз які тыдзень Шушкевіч ізноў мяне запрашае да сябе і адразу ў лоб пытаецца: «А што, калі я яшчэ і Краўчука ў пушчу запрашу?» Я яму кажу, што гэтага катэгарычна нельга рабіць. Што сам факт такой сустрэчы будзе выглядаць для азіяцкіх рэспублік Саюза змовай... А ён мне: «А я ўжо запрасіў!..»

Я не прарок і, зразумела, не ведаў, што ў Віскулях падчас палявання на вепрукоў трох лідэраў саюзных рэспублік будзе мімаходзь дэнансаваны Саюзны дагавор, але інтуітыўна адчуваў, што дабром гэтая сустрэча не скончыцца...

**— Але як усё ж вы папярэдзілі непасрэдна Гарбачова?**



— Дзесьці за тыдзень да Віскулёў я прыляцеў па справах у Маскву. Адразу накіраваўся да Гарбачова. Падчас сустрэчы з ім і распавёў, што ў Белавежы плануецца, на мой погляд, даволі небяспечная сустрэча. Ды Гарбачоў быў верны сабе. Ён мне адказаў так: «Што ты мяне палохаеш, ці першы раз яны між сабою стасуюцца. Хай сабе пап'юць у пушчы гарэлкі, трохі развеюцца ад спраў надзённых. У панядзелак яны ўсе, як агурочкі, будуць у мяне на абмеркаванні Саюзнага дагавора...» З тым я і пайшоў...

**— Кажуць, што Шушкевіч запрашаў «на вепрукоў» і Назарбаева?...**

— Так... Але той даляцеў толькі да Масквы і там спыніўся. Ён, відаць, таксама адчуваў, што ў Беларусі пахне паленым.

**— Дык адкуль насамрэч раслі «рожкі» віскулёўскай драмы?**

— Наўрад ці быў нейкі персанальны аўтар гэтай ідэі... Але галоўным яе каталізатарам, безумоўна, быў Бурбуліс, найбліжэйшы дарадца Ельцына. Пасля жніўня Ельцыну ўжо было мала тае ўлады, якой ён валодаў. Яму захацелася большага — правіць Расіяй «самодержавно». І такія, як Бурбуліс, былі не болей чым рэалізатары ягоных таемных жаданняў.

**— Зноў суб'ектыўны фактар?**

— Безумоўна. Людзі з надзвычай стракатага акружэння былога першага сакратара Свярдлоўскага абкама, так званы «свярдлоўскі клан», пасля жнівеньскага путчу крыху ашалелі ад нечакана нахлынуўшай на іх улады, вядомасці, уплывовасці. Таму, мне здаецца, яны не вельмі добра ўсведамлялі, што робяць.

**— Выходзіць, не такая была магутная краіна СССР, калі так лёгка разбурылася?..**

— Па сваіх магчымасцях, патэнцыяле і ўплыве на сусветны парадак СССР быў вялікай і магутнай краінай. Нездарма яго разам з ЗША кітайцы адносілі да так званых сусветных «гегемонаў»-супердзяржаў. Іншая рэч, што ў апошнія гады яго існавання гэтая магутнасць была істотна падарваная негатыўнымі ўнутранымі працэсамі.

**— Шмат пісалася і гаварылася пра ўдзел у дэмантажы СССР Захаду...**

— У Захада, адрозна ад СССР, былі простыя тактыка і стратэгія, заснаваныя на метадзе найменшых затрат. Канечне, СССР быў геапалітычным канкурэнтам і Захад быў наўпрост зацікаўлены ў яго аслабленні. У плане ўздзеяння на працэсы ў СССР галоўны прынцып у іх быў наступны: калі яны ідуць, як належыць, — дапамагаем і спрыяем, калі не, то крытыкуем і імкнёмся скіраваць у патрэбнае рэчышча... Але, думаю, што і Захад не чакаў такой хуткай развязкі.

**— А як жа звышпраніклівыя імперыялістычныя спецслужбы, якія «расхіствалі»..?**

— Усе гэтыя размовы пра вызначальную ролю ў распадзе СССР спецслужбаў, разведак і гэтак далей, як мне падаецца, беспадстаўныя. Я добра ведаў магчымасці і ўзровень савецкіх спецслужбаў і ўпэўнены, што яны сваім заходнім калегам вольна разгуляцца не давалі ніколі. Рэч была ў стане здароўя самой краіны, сістэмы...

**— А можа, у стане здароўя самога савецкага палітычнага істэблішменту?..**

— Здароўе сістэмы якраз у многім і залежыць ад здароўя ( і духоўнага, і фізічнага) тых, хто «наверсе». А таксама іх узроўню і адпаведнасці маштабам пастаўленых задач. У крытычных для той ці іншай дзяржавы сітуацыях, а асабліва такой вялізнай краіны, як СССР, вельмі важна было, хто ў гэты час знаходзіцца на капітанскім мастку...

Зразумела, было шмат адмоўных аб'ектыўных фактараў, якія паспрыялі распаду СССР. Нам дорага каштавала звышцэнтралізацыя ў палітыцы і эканоміцы, якая каменем вісела на шыі дзяржавы. Калі кожны «чых» у якіх-небудзь Мцэнску, Глухаве ці Слуцку мусіў быць узгоднены ў Маскве. Але ў СССР была надзіва дагматычная ідэалагічная сістэма, стрыжнем якой быў так званы прынцып дэмакратычнага цэнтралізму і якая пільна сачыла за тым, , каб ніхто ні на ёту не «адступаў ад нормаў»... Ён жа быў і галоўным тормазам... Так што перадумовы Віскулёў ствараліся доўга, а ў Белавежскай пушчы быў толькі канстатаваны факт развалу...

**— І якія, на вашую думку, галоўныя наступствы Віскулёў?.**

— Тое, што адбылося ў Белавежскай пушчы, мне здаецца, у гістарычным плане было немінучым. Іншая рэч, як гэта трэба было рабіць. Дык вось многае зроблена было тады проста неразумна. Чаму перад тым, як сесці падпісваць такія дакументы, не вырашылі папярэдне пытанне са зброяй, прычым не толькі ядзернаю. І гэта адно з самых галоўных адмоўных наступстваў Віскулёў. Чаму не абгаварылі пытанне аб энерганосьбітах? Напрыклад, наша рэспубліка брала актыўнейшы ўдзел у будаўніцтвах газанафтаздабываючых комплексаў у Сібіры, але мы нічога з гэтага не атрымалі.

Зрэшты, былі і станоўчыя вынікі. Пасля Віскулёў на карце свету з'явілася незалежная Рэспубліка Беларусь — векапомная мара многіх пакаленняў беларусаў.

**Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ**

ДРУК

# З пакалення спаленых вёсак

Прачытаў нядаўна дакументальна-мастацкую аповесць Аркадзя Нафрановіча "Мая адысея", што выйшла ў выдавецтве "Юнацтва". Успаміны пра перажытае самім аўтарам заўсёды чытаюцца з цікавасцю як старэйшымі, так і маладымі чытачамі. Старэйшыя з замілаваннем згадваюць пры гэтым нешта сваё, параўноўваюць, маладыя суперажываюць, знаходзяць штосьці важнае для сябе ў чужым жыццёвым вопыце. Некалі Максім Горкі зазначыў, што кожны чалавек можа напісаць адну кнігу — пра сваё жыццё. І кніга гэтая будзе цікавай, асабліва тады, калі аўтару давялося перажыць нямала знамянальных падзей, прайсці праз цяжкія жыццёвыя выпрабаванні.

Дзяцінства Аркадзя Нафрановіча прыпала на гады Вялікай Айчыннай вайны. Разам з усімі жыхарамі сваёй роднай вёскі Юшкавічы, што на Мядзельшчыне, ён аказаўся ў фашысцкай Германіі і прабыў там з 1943-га да 1945-га года. Яму было тады ўсяго шэсць гадоў, і ён не зазнаў паднявольнай працы, але ўдосталь нагараваўся, нагледзеўся на жудаснае жыццё гвалтоўна вывезеных з родных мясцін мірных жыхароў.

З якім замілаваннем апісвае Аркадзь Нафрановіч мірнае даваеннае жыццё Юшкавіч! Хай сабе і не было яно лёгкім, вясёлым, але знаходзіліся ў ім для маленькага Аркадзя свае прывабныя часіны. Што цікава: ён як нешта светлае згадвае не толькі вячоркі, танцы, гульні, святы, але і працу на малацьбе, калі дапамагаў бацькам і адчуваў гордасць і радасць, што і ён — работнік! Мне, земляку аўтара было асабліва цікава чытаць гэтыя старонкі, бо і ў маіх родных Верацеях гэтак жа жылі, гаварылі, святкавалі, выхоўвалі дзяцей у пашане да людзей і любові да працы. Нафрановіч не раз у сваёй кнізе ў думках пераносіцца ў наш час, параўноўвае і прыходзіць да высновы, што спрадвечныя няпісаныя маральныя правілы, якімі некалі кіраваліся ў вясковых сем'ях, лепей садзейнічалі выхаванню, чым што іншае, запазычанае з кніжак, з найноўшых тэорый выхавання.

Аднавяскоўцы Нафрановіча ў час вайны дапамагалі партызанам, некаторыя самі пайшлі ваяваць. Фашысты адпомсцілі за гэта, спаліўшы вёску, а ўсіх жыхароў, ад старых да малых, яны адвезлі ў Нямеччыну. Сям'я Нафрановічаў апынулася ў вёсцы Шубы непадалёк ад Франкфурта-на-Майне. Дарослыя сталі працаваць на фабрыцы. Хлопчыкава памяць захавала і карціны здзекаў з таннай рабочай сілы, рабоў рэйха, і пераказаныя ягоным бацькам эпізоды сутычак з немцамі, дзе таксама выявіліся жорсткасць і антыгуманнасць у адносінах да рабочых. Невясёлае жыццё было і ў самога Аркадзя. Але ўсё ж з адлегласці пражытых гадоў Нафрановіч не засяроджваецца толькі на адмоўным, не малюе ўсё, што было тады, у адных чорных фарбах. Вось два раздзелы: "Немцы — людзі высокай культуры" і "Немцы — народ сумленны і справядлівы". Упэўнены — яны не маглі б з'явіцца, калі б кніжка гэтая пісалася па гарачых слядах падзей, бо тады хай сабе не розумам, але пачуццямі аўтар яшчэ перажываў бы свой боль. Цяпер жа ён не змог абмінуць праяў і добрых адносін да беларусаў, якія трапілі ў Нямеччыну, аддаў належнае станоўчым якасцям характару немцаў, асаблівасцям іх ладу жыцця. Нават зазначае, што таму-сяму ў іх можна і павучыцца. Я ў гэтым бачу не толькі нашу славянскую ўсёдаравальнасць, дабрыню, але і жаданне аўтара быць сапраўды сумленным сведкам падзей, справядлівым у сваіх развагах і высновах. Але ёсць тут і большае: грунтуючыся на дзіцячых уражаннях, аўтар разважае пра тое, што людзі не павінны забіваць адзін аднаго, што ніводзін народ сам па сабе не ваяўнічы, хоча нармальна жыць, працаваць, весяліцца.

У кнізе нямала цікавых, пазнавальных эпізодаў, звязаных з апошнімі днямі вайны, вызваленнем, вяртаннем на радзіму. Тое, што занатавана ў ёй, не нафантазіруеш, не выдумаеш, тут усё спісана з рэальнага. Нафрановіч апавядаў не толькі пра найбольш памятныя яму цяжкія гады ў Германіі, але і пра тое, як яшчэ доўга адгукалася вайна ў жыцці яго самога і ягоных аднавяскоўцаў, як вучыўся ва ўмовах, калі не хапала не толькі сшыткаў і чарніла, але і цяпла, і наедку, і дзіцячых радасцей. Аднак жа і тут Нафрановіч знаходзіць светлыя фарбы, добрым словам успамінае бацькоў, настаўнікаў, аднавяскоўцаў і аднакласнікаў. Мусіць, такая ўжо ўласцівасць дзіцячай памяці — найперш згадваць добрае.

Натуральна завяршаюць аповед пра ўсё тое адметнае, што давялося перажыць, раздзелы пра сустрэчу на Смаленшчыне з чалавекам таго ж "пакалення са спаленых вёсак", невясёлую сустрэчу праз многія гады.

Нафрановіч — паэт, і таму натуральна, што перажытае было выказана ім не толькі ў прозе, але і ў вершах. Яны месцамі сталіся дарэчы і падчас успамінаў, але тое, што аказалася нявыказаным у прозе, аўтар выявіў у заключным раздзеле "Споведзь", цалкам складзеным з вершаў, якія нібыта яшчэ раз вяртаюць чытача да ўсяго раней выказанага. Тут і радкі, у якіх гучыць любоў да роднай зямлі, і згадкі пра сваю "адысею", у якой не было прыгод, а былі горкія, нярадасныя падзеі, і роздум над перажытым.

Добрую, сумленную кнігу напісаў Нафрановіч. Упэўнены, што яна ляжа на душу не толькі тым, каму адрасавана — дзецям, але і кожнаму, хто неабыякавы да сённяшняга і мінулага, хто, як і аўтар, жадае:

*Каб больш дарвацца да улады,*
*Нідзе фашысты не змаглі,*
*І людзі без грызні і звады*
*Вялі свой рэй на ўсёй зямлі.*

**Міхась КЕНЬКА**

## “Поезд оставил дымок...”

**Кнігі, як вядома, нараджаюцца па-рознаму. Найчасцей аўтар загадзя акрэслівае задуму і, не спяшаючыся, ажыццяўляе яе. Часам бывае і так, што кніга становіцца вынікам збору асобных мастацкіх твораў, што друкаваліся ў розны час без прэтэнзіі на тое, што яны калі-небудзь складуць зборнік. А нярэдка жаданне сабраць пад адной вокладкай напісанае ў розны час становіцца патрэбай асэнсаваць пройдзены шлях. Гэтым кіраваўся і Аляксандр Юдзіцкі, калі браўся за складанне сваёй кнігі “Поезд оставил дымок...”, выпушчанай**



**Выдавецтвам С. Лаўрова ў Брэсце: “За спіной амаль пройдзеная дарога. Вось-вось шэсцьдзесят. Многа, мала? — Пытанне. А што многа? А восемдзесят, пяцьдзесят, трыццаць? Кожнаму адмераны свой адрэзак шляху”. У прызнанні “Як нараджалася гэтая кніга” ён працягвае: “Неяк прачытаў у апавяданні Віля Ліпатава, які памёр ужо, што старыя ў 100-120 гадоў нажыліся, адыходзяць спакойна. Магчыма, і так. І ўсё ж добра, што чалавеку не дадзена ведаць, калі яго час наблізіцца да непазбежнай кропкі “Х”. І ўдакладняе, што гэтая кніга нарадзілася “з жыцця. З яго адчуванняў. Са спроб перадаць іх, каб расказаць аб падзеях, аб людзях”. “О людях хороших, о снежных порошах, о солнечных днях, о весенних дождях, о старых и новых друзьях”. Кожны чалавек — “планета”. Гэта не банальнасць, няпростыя словы, варта толькі агледзецца, убачыць яго, паспрабаваць зразумець”. А цікавых людзей на сваім шляху А. Юдзіцкі напаткаў нямала, бо так атрымалася, што давялося кантактаваць з многімі. У першую чаргу, вядома, калі стаў газетчыкам, атрымаў магчымасць часта выязджаць у камандзіроўкі. Але не толькі гэта паспрыяла яго жаданню прыглядзецца да чалавека. Як сведчыць у прадмове “Чалавек узяўся за пяро” Анатоль Гарэй, які таксама прайшоўся не адной жыццёвай сцяжынай-пуцявінай дзеля “некалькіх радкоў у газеце”, “Аляксандр Юдзіцкі — інжынер па адукацыі. Доўгі час займаўся руціннай работай у абласным энергетычным упраўленні”. І таксама сустракаў цікавых людзей. З жыццёвых назіранняў і нарадзіўся першы раздзел кнігі — “Партрэты”. Расказваючы пра людзей, якія пакінулі глыбокі след у душы, ён імкнецца да той праўдзівасці, за якой чалавек паўстае такім, якім ёсць у сапраўднасці. Але гэта не значыць, што А. Юдзіцкі абмяжоўваецца толькі канстатацыяй пэўных фактаў, згадвання больш ці менш значных эпізодаў з жыцця свайго героя. Дарэчы, паколькі гэтыя аповеды маюць пад сабой дакументальную аснову, у іх нязменна прысутнічае і сам аўтар. А такая прысутнасць дазваляе яму выказваць асабістае стаўленне да таго, што адбывалася і што адбываецца цяпер. Канечне, гэтыя выказванні спадабаюцца далёка не кожнаму, прынамсі, тыя, што тычацца гаворкі пра колішні Савецкі Саюз. Але, не будзем забываць, што кожны мае права на ўласнае меркаванне. Іншая справа, наколькі ў сваіх развагах аўтар прытрымліваецца аб'ектыўнасці. А ў гэтым А. Юдзіцкаму якраз не адмовіш. “Сон у Варшаўскім экспрэсе”, “Абыход”, “У войсках” — прыкметныя штрыхі з жыцця. І нядаўняга, і цяперашняга. А жыццё гэтае паўстае праз лёсы неардынарныя. Асабліва гэта відавочна ў “Абходзе”, калі А. Юдзіцкі згадвае колішняга камандзіра разведвальнага ўзвода Васіля Тота, з якім пазнаёміўся ў 1968 годзе, калі савецкія войскі былі ўведзены ў Чэхаславакію. Тады разам з іншымі А. Юдзіцкага прызвалі ў войска. Тот быў чалавекам сумленным, добра ведаў сваю справу, знаходзіў паразуменне з людзьмі. Але прайшлі гады і ён стаў не патрэбны грамадству, ператварыўся ў звычайнага бомжа. Чаму так здарылася? Наконт гэтага, зразумела, можна разважаць шмат. Але ў тым выпадку, калі пісаць праблемны артыкул. У А. Юдзіцкага была іншая задача, таму ён і абмежаваўся расказам пра Тота. Паведаўшы пра яго са скрухай і болем. Канечне, можна пажадаць аўтару, што трэба было б паказаць характар галоўнага героя ў развіцці. Але, не будзем забываць: кожны піша так, як лічыць тое неабходным. І ў гэтым сэнсе “Абыход” не прэтэндуе на нейкае дапісванне. Гэта і тычыцца іншых твораў, што ўвайшлі ў кнігу. Яны нераўназначныя ў мастацкіх адносінах, асабліва тыя, якія пісаліся па гарачых слядах падзей і належаць да так званай бягучай журналістыкі. Разам з тым напаткоўваеш навелы, якія сведчаць аб уменні А. Юдзіцкага быць назіральным, выбіраючы пры гэтым тое, што прэтэндуе на мастацкае абагульненне. Таму і атрымалася, напрыклад, навела “Маленькі Арбат”, у цэнтры якой мастак, захоплены сваёй справай.**

**Міхась ГЕНЬКА**

# “Быць беларусам — гэта значыць...”

Заінтрыгавала сама назва кнігі Рыгора Барадуліна — “Босая зорка”. Зорка і на зямлі? Але потым успылo аднекуль з глыбінь памяці — гэта нашы далёкія-далёкія прашчуры ўпершыню пачалі параўноўваць-асацыіраваць душы людзей-працаўнікоў з нябеснымі свяцiламі — Зоркамі. Болей таго, лічылася, што калі чалавек паміраў маладым, у росквіце сіл, то ягоная зорка-знічка павінна была гарэць намнога ярчэй і даўжэй, бо ў зямным жыцці ён не здолеў нарадавацца ўволю. Здавалася б наіўнымі былі ранейшыя жыхары крывіцкіх зямель, але гэта толькі на першы погляд, бо многа з міфалагічна-фальклорнай спадчыны, дайшоўшае да нас, пераконвае ў непарушнай чысціні духоўнасці продкаў. Непарушнай і... надзвычай безабароннай. Ці не таму і назваў сваю зорку Р. Барадулін босай? Яна ж існуе толькі ў памяці, ва ўяўленні, і пры гэтым усім, уявіць яе можа чалавек, які з адкрытай душой і сэрцам адносіцца да духоўнай спадчыны прашчураў.

*Зорка босая йшла нацянькі,*
*Бо спазніцца баялася дужа.*
*Дзе ступала, цвілі васількі,*
*Дзе стаяла, усміхалася ружа.*

*“Босая зорка”.*

Так ужо спрадвеку вядзецца, што дзе згадваюцца зоркі, то там абавязкова прысутнічае сам Бог, святыя, апосталы. Не адступае ад гэтай традыцыі і Р. Барадулін. Але ў ягонай высокамастацкай апрацоўцы агульнавядомых біблейскіх матываў мяне прыцягвала тое, што пададзена паэтам непаўторна-арыгінальна, гэтак, як не можа зрабіць ніхто іншы, акрамя самога дзядзькі Рыгора. Напрыклад, як хараша паказваецца ў ягонай трактоўцы самабытнае вушацкае паданне аб тым, як цыган імкнуўся хоць неяк палегчыць пакуты распятага Хрыста: “І вочы заплюшчыла цішыня. Цыган прыставіў цвік і з размаху На даланю насадзіў авадня Замест цвіка — насуперак страху” (“Благаславёны падман”).

Аўтар кнігі сцвярджае, што ўсё, створанае на Беларусі, было адштукавана Усявышнім з замілаванасцю і любоўю. А інакш і нельга было, бо тут жыў вольналюбівы і працавіты народ, які меў права на годнае жыццё: “Белую аблачынку вішні Здаецца выдыхнуў Усявышні”. Верылася ў тое, што “будзе ў нас як сусед Сусвет” (“Акрамя”). Але ж, на вялікі жаль, атрымалася зусім іншае, і Р. Барадулін з сумам зазначае ці згадвае пра тое, што гавораць пра сучаснага беларуса ягоныя суседзі, “Пакуль не наб'е сабе добры гуз Беларус не ўзгадае, Што ён — беларус”. Ад гэтага засцерагалі тыя, што свечкамі яркімі згаралі, служачы Айчыне. Хіба ж не пра гэта гаворыць сваімі творамі Вялікі Беларус — Васіль Быкаў? У вершы, прысвечаным яму, ёсць такія радкі: “Ён прадбачыў, прадказваў, прарочыў. Ён душою крычаў. Ён маўчаў” (“Непачуты”). А крычаць было пра што! Вядома ж, быць беларусам, паводле паэта, — быць сапраўдным патрыётам. А ці кожны здольны да такога, ці кожны адважыцца пакласці на алтар служэння Айчыны нешта больш важкае і істотнае, чым пустыя дэкларацыйна-мітынговыя словы? Наступныя радкі аўтара кнігі з'яўляюцца сведчаннем ягонай уласнай грамадзянскай пазіцыі, а не таго самага абыякавага да рашучых дзеянняў “народа”:

***Быць беларусам —***
***Гэта значыць,***
***За родны Край згараць на дым,***
***Па-беларуску чуць і бачыць***
***На гэтым свеце і на тым.***

*“Быць!”.*

Таму і атрымалася, што “На Беларусь вяртаецца Бог, не спяшаючыся вяртацца”.

Мяне вельмі ўразілі шчымліва-балючыя радкі кароткага, але празмерна-эмацыянальнага верша “In memoria”. Працытую яго цалкам:

***Над Беларуссю***
***Сонца марудна ўстае,***
***І спяшаецца за навалай навала.***
***Адам Міцкевіч паліць***
***Беларускія вершы свае,***
***Каб напісаў іх Янка Купала.***

Ці не ў гэтых радках заключана ўся філасофская ацэнка беспрасветнага мінулага беларусаў? Але ж і наперадзе не толькі ў нашчадкаў крывічоў, а ўвогуле ў чалавецтва не надта светлыя перспектывы. Таму біблейскае павучанне гучыць з вуснаў Р. Барадуліна прарочым напамінам тым, хто марыць перакроіць законы жыцця на ўласны лад, не прытрымліваецца адвечных законаў маралі і гуманнасці: “Божа, паспагадай усім, — Каб вайной не ішоў Брат на брата, Каб ржавела сякера ў ката, Каб вячэраю пахнуў дым” (“Ксты”).

Назіраючы за тым, як змяняліся адносіны да мовы людзей, якія жывуць на старадаўняй крыўскай зямлі, паэт спрабуе прадбачыць, калі ж усё-ткі родны край у чарговы раз адчуе ўмяшальніцтва Усявышняга. Спадзяванне толькі на яго, вера — у яго таксама:

***Заселіць Беларусь наноў***
***Бог беларусамі такімі,***
***Што будуць на сваёй радзіме***
***Панамі без чужых паноў.***

*“Калі апошні...”*

Хіба ад радасці Р. Барадулін вымушаны быў зазначыць наступнае, “спісанае” з рэальнага жыцця: “Сказаць я не бяруся. Як нарадзіцца не прыпала, Хаця б памерці давялося У беларускай Беларусі” (“Хаця б”).

Нездарма ж, відаць, аўтар кнігі сумняваецца, бо ёсць для гэтага ўсе падставы, “Што нехта захоча Сказаць пра мяне: Ён быў на паслугах У матчынай мовы” (“Жаданне”).

Карані ж самога Р. Барадуліна, якія злучаюць яго з генетычнай памяццю продкаў, — надзвычай трывалыя. Гэта не проста пералічэнне прашчураў, якія адышлі ў нябыт, а веданне традыцый і абрадаў, сімвалаў і міфалагічных персанажаў, як роднай Вушаччыны, так і ўсяго славянскага (а магчыма, і шырэй!) свету. Паэт падкрэслівае, што няма ў дзяцінстве ў нас ні добрых, ні благіх, вось толькі, падросшы, перайшлі мы ў тую ўмоўную мяжу, за якую забаранялі пераступаць продкі. Перайсці перайшлі, а вярнуцца не можам. Не выключана, што ў большасці выпадкаў проста не хочам, або ўвогуле нават не задумваемся над такім пытаннем, “Хто старэйшы, думка ці слова, Хто шчырэйшы з іх?” (“Хто”). Не кожны здольны з выклікам гукнуць: “Чысцінёю тваёй (Беларусі. — **А. Н.** ) прычашчуся, Сорам твой на мяне хай падзе” (“Беларусь — ты мой сон вялікодны”). Хіба аўтар не мае рацыі, калі зазначае: “Няма калі Богу старэць, Бо чорт маладзее з гадамі” (“Няма калі”)? Спрэчка паміж гэтымі двума міфічна-біблейскімі персанажамі вядзецца з сівых стагоддзяў, калі толькі ўсталёўвалася жыццё на зямлі, і яны пачалі ў народнай міфалогіі існаваць узаемавыключнай парай. Ёсць і іншыя ўзаемавыключныя пары, сярод якіх галоўная, мабыць, — гэта жыццё і смерць. Паэт сфармуляваў вельмі коратка, затое праўдзіва, без усялякіх спачувальна-бязглуздых слоў, адыход звычайнага чалавека ў нябыт, у іншы свет: “Ды як я буду паміраць, нікому Усё гэта нецікава, Як і мне...” (“Відаць”).

Той, хто пайшоў ад жывых, застаецца ў іхняй памяці да таго самага часу, пакуль пра яго ўспамінаюць. Нездарма ж нашыя мудрыя і спрактыкаваныя прашчуры ўвялі ў побыт абрады-святы — Радаўніцу, Дзяды. У гэтыя дні жывыя найбліжэй кантактавалі са сваімі памерлымі. Менавіта кантактавалі, бо свята верылі, што ў тым свеце іх будзе чакаць больш лёгкае жыццё, якое яны заслужылі будзённымі справамі, ці ўдзельнічаючы ў ратных паходах: “Радаўніца Радавод даўніну Цёмнымі апаўе каранямі. Цень забытай душы акрыляе Абапершыся на труну” (“Радаўніца”). Ці другі верш — “Вылучна беларускі”, “Каб памянулі птушкі заадно Высокіх продкаў... Сухі дзядоўнік, як ахвярны дуб... А на Дзяды і змрок куццёй вячэрае”. Мы пакінулі ў ім найбольш старадаўнія архетыпы (першавобразы), якія, як нам здаецца, прыгадваюць часы язычніцтва, таго самага перыяду, калі на тэрыторыі сучасных беларускіх земляў зараджаўся сацыяльна-грамадскі лад. Гэтыя самыя абрады і традыцыі, святы і “рэшткі” міфаў і ёсць першасныя ўяўленні продкаў пра акаляючы свет. Падумаць толькі! Прараслі, захаваліся, ажылі ажно праз тысячу гадоў. Мёртвыя

*Рыгор Барадулін. “Босая зорка”. Мн., “Кніга”, 2001.*

# Цені Крывіцкай Атлантыды

## РЭЦЭНЗІЯ, ЯКОЙ НЕ ПАВІННА БЫЛО БЫЦЬ

Прызнацца, адкрывала я гэтую кнігу з насцярогай.

А як загадаеце ставіцца, калі ва ўсіх прадмовах, пасляслоўях і анатацыях аўтар гэтак дыстанцыруе ўласны інтэлект ад інтэлекту патэнцыйнага чытача? Не запрашэнне да знаёмства; не, крый Божа, заваблiванне цікавым зместам — а праўдзівы выклік на турнір, які правакуе ўнутраны супраціў: ды чаму гэта я мушу здаваць аўтару іспыт па веданні Хайдэгера, усходняй эзатэрыкі ды іншае інтэлектуальнае трасцы? І якую ж нуду мусіць напісаць чалавек, калі яе нават нельга зразумець без ведання Хайдэгера? “Dazein” не хапала ў айчынным прыгожым пісьменстве! Нягледзячы на тое, што са здымка аўтар шчыра пазірае нам ў вочы, з прадмовы вынікае нават не скосы погляд збоку — а зверху ўніз, з п'едэстала, састаўленага з важкіх тамоў сусветнай мудрасці, набытай на суботнім кірмашы ў былой ВДНГ.

“У гэтую кнігу можна ўвайсці праз чатыры розныя дзверы. Выйсця з яе няма ніякага”... Страхоцце. І тлумачыцца, што ў залежнасці ад узроўню чытача, ён трапіць або проста ў раман (па вызначэнні анатацыі — постмадэрнісцкі), або ў кнігу гісторый, або ў філасафічны трактат, або ў “практычны дапаможнік па кітайскай народнай гульні ў інь і ян”. Не слаба...

Я адкрыла кнігу, загадзя падрыхтаваўшы годную скептычную міну, і...

Прывітанне, “генерэйшн Пі”, беларускі варыянт!

Прачыталася “на адным дыханні”, і такая “чыста тутэйшаўская” настальгія апанавала мяне, што я вырашыла, што ніколі не змагу нічога пра гэтую кніжку напісаць. Нягледзячы на прыняцце і супадзенне. Ну куды ж да чатырохслойнага постмадэрнісцка-іцзыньскага тварэння сунуцца з простымі “аднаклеткавымі” катэгорыямі “цікава”, “падабаецца”, “кранальна”... Ды яшчэ недарэчная паралель з Віктарам Пелевіным, ад якой ніяк не магу пазбавіцца, у той час як сам аўтар падкрэслівае сваяцтва з Картасарам энд Ка... Ды аўтар жа проста пакрыўдзіцца, калі нехта рэкне, што зразумеў ягоны опус, і нічога там, такога загерметызаванага, уласна кажучы... Вядомы прыклад з чорнай кошкай у цёмным пакоі ў з'явах мастацтва спраўджваецца такім чынам, што калі аб'яўлена пра прысутнасць той кошкі, яе знаходзяць **заўсёды**. А хто не знойдзе — прафан...

“Дзесяць медытацый з нагоды неіснавання свету” — і раптам аджывае збракаванае інтэлектуаламі наіўнае беларускае адраджэнне васьмідзесятых?

Мусіць, разгадка — у аўтабіяграфіі аўтара-героя:“Радзіма-Крыўя (Атлянтыда)...

1. Пахаваная на ядлоўцавых пустэчах.
2. Ціха пульсуе ў крыві.
3. У восьмым стагодзьдзі апусьцілася на дно гісторыі.
4. Сёння існуе як культурны міт”.

Так, гэта яно, пакаленне “Тутэйшых” і “Талакі”. Пакуль рускае “Генэрэйшн Пі”, якое выбрала “Пепсі”, імчала да прорвы ў цягніку “Жоўтая страла”, найбольш “прасунутыя” беларускія маладыя інтэлектуалы, акрамя агульнай скіраванасці ў нішто і адсутнасці сябе ў свеце і свету па-за сабой, абцяжарваліся неіснаваннем прывіднай Радзімы, Атлантыды на дне гісторыі. І насуперак суіцыдальна-дэструктыўнай традыцыі постсавецкага “інтэлектуалізму”, беларускія “іксеры” спрабавалі сваю Атлантыду ўзняць. Адрадзіць. Стварыць. У выніку мы маем беларускі постмадэрнізм, інвазіраваны нацыянальным рамантызмам. І як бы ні намагаўся аўтар, у дадзеным выпадку Ігар Бабкоў, спраўдзіць прынцып Іншага, адсутнасці аўтараў, выбудаваць форму адпаведна пралічаным прынцыпам — сімулякры (копіі, якія не маюць арыгінала), цытаванне твораў сусветнай культуры (з узурпацыяй і апаганьваннем іхняга месца), перанасычэнне тэксту алюзіямі і метафарамі, дэструкцыя часу, прасторы і етс, ад сябе не ўцячэш.

Як ні дэкларуй — “а вось зараз я ўжыў сімулякр”... А вось зараз, шаноўная публіка, мільгане алюзія на Борхеса...”

Ператасаваныя аўтарам сны і рэфлексіі аб'ядноўвае адзін герой — якога, па задуме аўтара, быць не павінна. Прычым недахопы рамана — а яны ёсць, робяцца неабходнымі рысамі ў партрэце гэтага галоўнага героя. Чалавека, які нарадзіўся ў Крыўі-Атлантыдзе.

Герой пад рознымі маскамі, у розных рэальнасцях займаецца стварэннем Беларусі. І атрымліваецца, што гэты герой у сукупнасці ўсіх сваіх масак-увасабленняў, — падобна таму, як птушкі Борхеса ствараюць адну птушку Сімург, — і ёсць Атлантыда-Беларусь. І Ян Клакоцкі, наменальна — магістральны герой, а насамрэч — адна з карнавальных масак (назва ж тлумачыць, што ўсе героі кнігі — “цені” Адама Клакоцкага, прататыпам якога, дарэчы, ёсць рэальная гістарычная асоба, чым Ценем ён ёсць сам). Ад гэтай постаці ідзе дрогкая павуцінка, ці лепш сказаць, пункцір фабулы — беларускі інтэлігент пачатку дзевятнаццатага стагоддзя збірае архіў сноў. Чужых, бо свае не сняцца. Кідаецца празрысты намёк для прасцячка-чытача: усе эпізоды рамана — запісы з таго архіва. Дарэчы, адзін з увасабленняў героя, нібыта наш сучаснік, працуе ў неіснуючым архіве Яна Клакоцкага.

Беларусь — гэта і дзяўчына Магдачка, расстраляная падчас высадкі парашутнага дэсанта над Наваградкам — яе сэрцам была

*Ігар Бабкоў. Адам Клакоцкі і ягоныя цені. Менск, 2001.*

ПРОЗА

# ФРЭСКІ

Барыс ПЯТРОВІЧ



## Стому адчуць

У той дзень зранку ў яго спыніліся ўсе гадзіннікі. Папсаваліся, паламаліся, пасканчваліся ў іх сілкаванні. Так вось раптам. Нібыта дом не хацеў выпускаць яго з дому. І ён стаяў каля вакна, глядзеў на вуліцу, і не ведаў дакладна, колькі цяпер часу і ці варта яму ісці на працу...

Ліфт доўга не адгукаўся, а потым, незадаволена стогнучы, прыйшоў. У кабіне лётала вялізная, зіхатліва-зялёная ў цьмяным святле, муха – білася аб сцены і шукала выйсця. Ён махнуў рукою – удала, – і муха чмякнулася пад ногі. Ён наступіў. Пад падэшвай лёгка хрупнула. Яму стала шкада мухі. Мо таму, што нават ліфт можна было цяпер скіраваць назад, уверх, а час адкруціць туды, дзе муха яшчэ жыла, было немажліва.

У двары, на далёкім канцы яго, стаяла бабуля з касою. Уся ў чорным, толькі хустка на галаве чырвоная, як у камсамолкі ў старым фільме. З хвілю бабуля з узнятаю ўверх касою не варушылася, і яму стала вусціцна. Але бабуля ажыла, сышла з асфальтавай сцяжыны на траву і пачала абкошваць куст. Рухі ў яе былі немітуслівыя, хоць і кароткія, рэзкія. Аднак і ў працы заставалася яна страшнай.

Самым людным месцам у гэтым горадзе цяпер быў прыпынак. Людным ды маўклівым. Мужчыны і жанчыны невідучымі позіркамі ўзіраліся ў край вуліцы, дзе жаўтавока міргаў святлафор. Адтуль павінен прыйсці тралейбус. Павінен. Прыйсці. Тралейбус.

Ён абрадаваўся, бо калі шмат народу чакае, значыць, тралейбуса даўно не было і ён хутка прысунецца. Здалёк убачыўся брудна-чырвоны «запарожац» - павольна праехаў паўз прыпынак і спыніўся, калі на яго ўжо ніхто не глядзеў. Сігнал. Яшчэ сігнал. Ён не азірнуўся. А дарэмна. Бо пасля пятага ці шостага гудка пачуў, як падалося, знаёмы голас: «Э-гей! Э-гей!...» і сваё імя. Яго клікаў інвалід Андрэй Фёдаравіч, які працаваў бухгалтарам у іхняй канторы. «І чаму гэта ўсе інваліды працуюць бухгалтарамі?» – падумаў ён і пайшоў да машыны. «Еду, бачу, ты стаіш, думаю, трэ падвезці...» – сказаў Андрэй Фёдаравіч, відочна задаволены, што стаў карысным чалавеку.

У машыне лётаў тапалёвы пух, лез у нос, і ён закашляўся. Алергіі ад пуху ў яго не бывала, але тут ён удыхнуў пушынку, і яна непрыемна казытнула горла. «Бяда з гэтым пухам, - сказаў Андрэй Фёдаравіч, - машына мая начуе ў двары пад таполяй, дык ранкам як ні чысці, усё роўна нейкім чынам у салон залятае...» «Салон» у «запарожца» быў такім, што сюды залятал і начаваць, пэўна, і вераб'і, але ён прамаўчаў, а толькі зноў кашлянуў. Прамаўчаў яшчэ і таму, што згадаў раптам Валодзю, які працаваў у іхнім аддзеле і памёр летась. Валодзю якраз штогод душыла алергія, калі зацвіталі таполі. І кожным разам на гэты час Валодзя браў адпачынак і з кватэры нікуды не выходзіў. Хіба на гаўбец папаліць. Так было і ў той дзень. Выйшаў, запаліў, прычыніў дзверы са свайго боку на зашчапку, каб дым у пакой не гнала. Зацягнуўся з асалодай, выдыхнуў шырока. Добра-а... І хапануў незаўважна пры ўдыху таполевую парушынку. Жонка бачыла, як ён упаў. Кінулася да дзвярэй. Тузала-тузала – адчыніць не змагла. А Валодзя ўжо і выпрастаўся пасінелы. Тэлефона дома няма, выбегла на вуліцу выклікаць «хуткую». Вярнулася – дзверы ў кватэру аўтаматычна зашчоўкнуліся, а ключы яна не прыхапіла. Пакуль выбівалі з суседзямі дзверы ў кватэру, потым - на гаўбец, пакуль прыехала «хуткая», Валодзя даходзіў. А тут яшчэ ў «хуткай» не аказалася кіслароднай падушкі...

Ніхто не верыў, што Валодзя памёр. Такі весялун, анекдотчык – ну хіба мог гэтакі жыццялюб памерці так раптоўна...

Ён сядзеў побач з Андрэем Фёдаравічам і пазіраў, як той спраўна кіруе машынай. «Запарожац» пырхаў, дрыжаў, але ў плыні іншамарак вылучаўся толькі сваёй дробнай непрывабнасцю, а з хуткасцю гарадскога жыцця спраўляўся. І ён захацеў патрапіць у аварыю. Толькі цяпер пачалі ў яго з'яўляцца нейкія, цьмяныя пакуль, думкі наконт таго, чаму спыніліся сёння ўсе гадзіннікі, чаму лётала муха ў ліфце, чаму, выйшаўшы з пад'езда, ён першай убачыў бабульку з касою, і чаму падабраў яго на прыпынку Андрэй Фёдаравіч. «Я ў вашым раёне чаго, - казаў між тым Андрэй Фёдаравіч, - толькі тут у аптэцы патрэбныя лекі былі». «І гэта невыпадкова, - падумаў ён, - зусім невыпадкова...»

«Спыніцеся тут», - папрасіў ён і, нічога не патлумачыўшы здзіўленаму Андрэю Фёдаравічу, выйшаў.

«А чаму, чаму мне ўсё-ткі так не хочацца ісці на працу? - паспрабаваў ён разабрацца ў сабе. - Ці не таму, што сёння прыязджае са справаздачай Галя з Гомеля...» Так, прыязджае Галя, з якою ён быў летась і з якою сёлета яму сустракацца не хацелася. Ён быў незадаволены сабою тым, леташнім. Паддаўся на лёгкую інтрыжку... Зрэшты, каб не той спарон, які ён лічыў вялікім грахом і частку віны браў на сябе, можа б, успрымалася ўсё цяпер зусім паіншаму. Галя, вядома, будзе шукаць яго, яна і тэлефанавала яму загадзя, радасна; шаптала, што прыедзе, і нават чмокала ў трубку... Хай шукае, горад вялікі.

Ён зайшоў у першую стрэчную кавярню. Папрасіў кубачак кавы. Стомленая, з нявыспанымі вачыма, але рухава-вясёлая дзяўчына ацэначна стрэльнула па ім і пачала млява соўгаць туркай па гарачым пяску. Ён шваркнуў рукамі па кішэнях і зразумеў, што кашалёк забыў дома. Прабачальна зірнуўшы ў бок дзяўчыны, выйшаў з кавярні. Грошай не было, але ў яго ляжала прыхаваная пяцёрка даляраў, пра якую не ведала нават жонка. Своеасаблівая «заначка», якая цяпер так дарэчы. Нерашуча зайшоў у бліжэйшы абменнік. З-за шкляной перагародкі на яго пагледала мілая дзяўчына. «І чаму гэта тут працуюць такія прыгожыя дзяўчаты?» – падумаў ён, дастаючы пяцёрку і падыходзячы да вакенца.

На вуліцы рыпнулі-віскнулі тармазы – рэзка спынілася машына, і ў маленькі пад'езд-пакойчык ускочылі два хлопцы ў масках. «Гэта аграбленне!!!», - як у кіно закрычалі яны з парога. - «Усе да сцяны!!!». Ён адступіў і азірнуўся. У невялікім пакойчыку – метры два на два – стала цесна ад мітусні двух хлопцаў у нацягнутых на галовы чорных шапачках з дзіркамі для вачэй. Хлопцы махалі пісталетамі, падобнымі да цацачных... Больш нічога ён не паспеў разгледзець, бо атрымаў кулаком у твар: «Да сцяны!» Кроў пырснула на кашулю, і ён прыхапіў нос адною рукою, а другою пачаў шукаць насоўку ў кішэні. Краем вока ўбачыў, як хлопцы вывучана-спрытнымі ўдарамі выбілі дзверы ў бакавінку, дзе ўжо лямантавала дзяўчына: «Мама!». Чуў іх крык: «Чаму так мала! («Ранак...» – істэрычна адказвала дзяўчына.) Давай усё!» – а сам думаў: «А дзе ж варта?», бо звычайна пры ўваходзе стаяў кароткастрыжаны жлоб у чорнай уніформе, падперазаны рамянём з кабурой... Пачуўся стрэл. Дзяўчына ўскрыкнула, і нешта цяжкае грукнулася на падлогу, адсоўваючы сабою крэсла. Хлопцы выскачылі з бакавінкі. У аднаго ў руцэ быў пук грошай – даляраў і беларускіх. «А з гэтым што будзем рабіць?» – спытаў другі, паказаўшы на яго пісталетам. І ў той жа момант нешта вострае ўдарыла ў ягоныя плечы, і ён асунуўся на падлогу...

Ён ляжаў і глядзеў шырока расплюшчанымі вачыма ў пластмасавую столь. Ён не паспеў нават падумаць, што яму наканавана было быць у пэўны момант у пэўным месцы і ён там быў. І гадзіннікі тут – ні пры чым, і муха, і бабуля з касою. І нават прыезд Галі з Гомеля...

## Каханым быць

Жыццё ягонае прайшло між трыма жанчынамі: адна кахала яго, другую кахаў ён, а трэцяя стала яму жонкаю.

Жанчын, вядома, было больш, але іншыя амаль не пакінулі следу ў ягонай душы – пасяліліся хіба ў памяці. Яны аддалі яму трохі радасці і згадваліся адно ў мужчынскіх размовах. А гэтыя тры суправаджалі яго праз усё жыццё. І толькі яны прымушалі яго пакутаваць.

Першая – час ад часу нагадвала пра сябе сама, другую не мог забыць ён, а трэцяя стала маці ягоных дзяцей.

«Сцёпка, прывет!» – казала яму па тэлефоне першая. «Гэта ты, Сцяпан?» – здзіўлялася пры сустрэчы другая. «Сцёпік, Сцёпічак!» – шаптала яму ноччу трэцяя.

І ён, пражыўшы пяцьдзесят, раптам падумаў: а ці *так* я жыў, ці не памыліўся? Ці не лепш было здацца першай, альбо заваяваць каханне другой, каб не ламаць жыццё трэцяй?.. Бо толькі перад ёю адчуваў ён сваю віну. І чым далей, тым болей.

Ён сумняваўся ў каханні першай да яго, бо памятаў, як лёгка перакінулася яна на вечарыне да ягонага сябра, што выявіў нейкую ўвагу і цікавасць да яе. Так, ёй трэба было выйсці замуж, - шукае ён цяпер апраўданне сабе. І таму яна выбрала ў якасці лёгкай ахвяры яго. І толькі.

Аднак ён ніколькі не сумняваўся ў сваім каханні да другой. Ён мог дараваць ёй усё, нават здраду, нават тое, што яна зусім не заўважае яго і адкрыта гуляе з іншымі. Ён мог падабраць яе любую. І кахаць.

Ён пражыў з трэцяй у згодзе і шчасці больш за дваццаць пяць гадоў, справіў сярэбранае вяселле, узгадаваў сына і дзвюх дачок, але так і не зразумеў – кахае яе ці не, кахае яна яго ці не.

Бо ён здагадваўся, што і яе жыццё таксама прайшло між трыма мужчынамі: адзін кахаў яе, другога кахала яна, а за трэцяга – за яго! - выйшла замуж.

## Кайф злавіць

Пасля аперацыі ўдзень боль цярпеўся, а ноччу – ніяк. Нага гарэла, ныла і спаць не давала. Таму і прапісалі яму штовечар дзесяць дзён запар рабіць абязбольваючыя ўколы. Гэта ўрач палічыў, што балець яму павінна больш за тыдзень, а на самсправе ўжо на пяты дзень пад вечар болю ён амаль не адчуваў, але ад уколу на ноч не адмовіўся. Падумаў: так будзе лягчэй заснуць. І на шосты, і на сёмы дзень таксама. Восьмым вечарам ён сам чакаў дзесятай гадзіны, калі перад сном павінна прыйсці сястра з «укольчыкам». І атрымаўшы яго – прыбалдзеў. Ляжаў і лавіў кайф ад таго, як расцякаюцца па ўсім целе цяплынь і лагода, як дабіраецца млосць да самых кончыкаў пальцаў на руках і нагах, як прыемна казыча нутро, праходзіцца лёгкай дрыготкай па рэбрах... Як п'янее ён і робіцца вясёлым ды гаваркім.

На адзінаццаты дзень падчас абходу ўрач сказаў: пірамідольчык мы адменім, але калі будзе балець, папрасі ўвечары сястру — хай уколе... Ён не вычакаў і гадзіны пасля адбою – паклікаў сястру. А потым зноў ляжаў і лавіў шчасце. Не ўяўнае, а сапраўднае – думаў ён. І на дванаццаты дзень яму паверылі таксама. Трынаццатым ранкам урач спачувальна прамовіў, гледзячы ў вочы, што цяпер трэба пацярпець – уколаў больш не будзе, бо гэта наркотык і да яго можна прывыкнуць. Трэба патрываць, паўтарыў ён, нібыта не сумняваючыся, што хвораму начамі яшчэ баліць нага.

Тым вечарам з дзесяці да адзінаццаці гадзінаў ён неяк цярпеў неадольнае жаданне атрымаць на ноч сваю порцыю кайфу, а пасля адзінаццатай пачаў прасіць суседзяў па палаце, каб паклікалі сястру, бо ён трываць далей не можа.

Дзяжурыла якраз маладая, яшчэ незамужняя жанчына, а таму – жорсткая і рэдка ласкавая да хворых. Добрай цётка Каця была толькі да старэйшых хлопцаў, якія маглі груба пажартаваць з ёй, а то і ўшчыпнуць, ці да паўночы праседзець побач на пасту ў заляцаннях нейкіх альбо пажадзе.

Сястра падышла да ягонага ложка, пачула слабую просьбу і ўхмыльнулася, быццам ведала тое, чаго не ведае ніхто. Але ён яе крывой усмешкі не заўважыў, ён усім целам і тварам паказваў, як нясцерпна баліць нага. І ў гэты момант яму і сапраўды здавалася, што ён адчувае боль і што ён самы няшчасны чалавек на зямлі. Сястра нічога не сказала, а праз хвіліну прыйшла з «укольчыкам». Працерла ягоную руку спіртам – ён удыхнуў гэты радасны пах і адразу ж пачаў «ад'язджаць» – потым страсянула шпрыц, пстрыкнула пазногцем пад іголкаю, пырснула ўверх найкаштоўнай вадкасцю і спрактыкаваным імгненным рухам, як умеюць тое рабіць толькі медсёстры, кальнула і ў момант выцягнула пусты шпрыц.

Ён у паўстоме, адным і вачыма, падзякаваў ёй і паспяшаў «лавіць кайф» – шукаць і знаходзіць у сабе ўжо вывучаныя за апошні час адчуванні. Вось у грудзіне – «пад лыжачкай» – узнікае цёплая плямка, якая пашыраецца, павялічваецца, падступае да горла, прыемны сухі спазм перахоплівае яго там, дзе збіраецца сліна, і цяпло ідзе да вушэй, вачэй, да самага цемечка... Пакуль ён сачыў за млосцю, што падымалася да галавы, яна расцяклася па ўсім целе, па руках і нагах, і ён – паплыў... Салодкая млявасць авалодала ім, паўзмрок у палаце паружавеў, у целе з'явілася такая лёгкасць, што, здавалася, стаў бы ён цяпер на падваконне, узмахнуў трапяткімі рукамі і паляцеў бы, як лятаюць матылькі. Усмешка блукала па ягоным твары, не знаходзячы прытулку, і ён засынаў...

Назаўтра ўвечары іншая сястра, старая і добрая саракапяцігадовая баба Маша, нібы чакала, калі ён яе пакліча. Прыйшла адразу і з «укольчыкам». А ён думаў, што давядзецца доўга прасіць, нават рыхтаваўся ўжо – скрывіў твар і ўявіў боль там, дзе ён павінен быць... Сястра спрытна закасала рукаў ягонае бальнічнае кашулі і ўпырснула ў руку халодна-балючую, як яму падалося, вадкасць. Ён паспеў толькі хапануць знаёма-тлумлівы пах спірту, і яна пайшла. Ён прыціскаў пальцамі мокрую ватку да шчымлівае ранкі на руцэ і не адчуваў зменаў у сабе, якія павінен несці наркотык. Пад лыжачкай не шчымела і не пасмоктвала, і цяпло не з'явілася. Тады ён узяў ватку і пачаў нюхаць яе – глыбока ўдыхаць пах спірту, каб хутчэй злавіць той момант, калі па целе пачнуць расцякацца лагода і млосць, каб хоць неяк наблізіць яго. Вось, казаў ён сабе, у грудзях нараджаецца і спее кволая плямка цяпла. Кволая-кволая, няўлоўная... І плямка з цяжкасцю, але з'явілася. Вось расплываецца цяпло па целе і падступае да горла. Не адразу, але падступіла... Вось пачынае пашчыпваць за вушамі... «Ну як, памагло? Перастала балець?» – баба Маша зайшла спытацца ў яго. Ён спешна кіўнуў, каб хутчэй вярнуцца да сябе, каб не страціць той трапяткі парастак мілосці, што ўзрасціў у сваіх грудзях. Знайшоў... пашчыпвае за вушамі, сліна перастрае ў горле... Ён "адлятае"... Увесь у сабе, ён пачуў недзе там, на пасту, здаровы смех сясцёр, але не надаў таму ўвагі – яму было добра...

Наступным вечарам сястра, а дзяжурыла зноў тая самая «жорсткая, бо незамужняя» цётка Каця, сама прыйшла пасля дзесяці гадзінаў і спытала: ці баліць табе? Баліць, адказаў ён, заснуць не магу, так кепска... Я зараз – весела крутанулася яна. Ён, абрадаваны, што не давялося прыніжацца і выпрошваць, ляжаў у чакальнай млявасці. Каця шырока расчыніла дзверы, каб не запальваць святло ў палаце, і зрабіла ўкол.

Ён доўга нюхаў ватку са спіртам, стараўся падмануць сябе, каб адчуць тыя амаль няўлоўныя спачатку змены ў сабе, якія разносілі потым шчасце і цяплынь па ўсім целе, і не мог адшукаць іх... «Ну як, не баліць? Памагло?» – зазірнула ў дзверы сястра. Ён, заняты сваім, адмахнуўся ад яе, як ад дакучлівай назолы: «Дзякуй, усё добра...» Яна пайшла, але гэтым разам ён чуў кожны ейны крок, кожны стук абцасіка аб дубовы паркет, пасланы ў бальнічным калідоры. Раней ён таго не заўважаў, быў шчаслівы... А цяпер... Вось дайшла-дастукала цётка Каця да павароту, за якім знаходзіцца сястрынскі пост – стаіць стол з шуфлядкамі, шафа і два крэслы... Датупала – і адразу ж пачуўся адтуль рогат. Не смех, а нястрымны рогат з папіскваннем: ой-не-магу-у... Ён сеў на ложку – галава была абсалютна светлая, незатуманеная наркотыкам: укол яго «не ўзяў». У палаце ўсе ўжо спалі, ціхенька пасапваючы, і ён вырашыў сам схадзіць, хоць яму яшчэ і не дазвалялі, да сясцёр, каб сказаць, што ўкол не дапамог. Накульгваючы на хворую нагу, ён дайшоў да рога-павароту, за якім сядзелі медсёстры, і спыніўся. Сёстры яшчэ пасмейваліся, перамаўляючыся між сабою. Ён міжволі прыслухаўся, бо раптам падалося, што размова ідзе пра яго. «Я пытаю: памагло? - казала цётка Каця, - а ён: дзякуй, усё добра...» Каця так умела падрабіла ягоны голас, што ёй і самой спадабалася, і яна паўтарыла колькі разоў: «Дзякуй, усё добра... Дзякуй, усё добра...» «А што ты ўкалола?» - спыталася сястра з другога паста. «Ды як звычайна – пустога навакаінчыку...» – захліпалася ад смеху Каця.

*(Заканчэнне на стар. 12)*



адным з будынкаў у Чэрвені. І Міжнародны фестываль духоўнай музыкі ў Магілёве "Магутны Божа", імем якога і пазыўным зрабіўся першы радок вядомай харавой малітвы. І жывое гучанне музыкі М. Равенскага ў храмах, у канцэртных праграмах.

**Я. КАРЛІМА**

Ж. Афенбаха. Лепшыя з іх прыходзяць працаваць у тэатр.

Самыя лепшыя якасці хору Нацыянальнага тэатра оперы і яго кіраўніцы раскрыліся на канцэрце, прысвечаным 25-годдзю творчай дзейнасці Н. Ламановіч. Ён прайшоў з вялікім поспехам. Цікавая, разнастайная праграма прагучала на адным подыху. Уразіла культура гуку, філігранная тэхніка, выразная дыкцыя. Выконваліся хоры з опер Д. Вердзі, П. Масканьі, Д. Пучыні. З вялікім уздымам была паказана сцэна з оперы М. Мусаргскага — "Барыс Гадуноў" "Плошча ля сабора Васіля Блажэннага", у выкананні якой удзельнічалі і салісты тэатра А. Мельнікаў, Э. Пелагейчанка, А. Жукаў, І. Пеўзнер. На "біс" прагучалі хоры з опер Д. Вердзі "Набука", "Яснае світанне" А. Туранкова. Выконваўся фрагмент з "Усяночнай" С. Рахманінава. Поспех хору і яго кіраўніка падзялілі сімфанічны аркестр тэатра пад кіраўніцтвам А. Анісімава, удзельнікі Дзіцячай тэатра-студыі, да стварэння якой у свой час спрычынілася Ніна Ламановіч і салісты оперы.

У гэты вечар Ніну Іосіфаўну сардэчна віншавалі, доўга не адпускалі са сцэны. Мастацкі кіраўнік тэатра оперы С. Картэс паведаміў, што наступным летам наш оперны хор запрошаны ў нямецкі горад Маншау, на фестываль опернага мастацтва, дзе пройдзе свята "Спяваюць лепшыя хоры". Можна не сумнявацца, што беларускія артысты, зноў пацвердзяць свой высокі прафесіяналізм.

**Вера КРОЗ**

тву і падтрымцы першых крокаў маладых фатографаў. За некалькі апошніх год у галерэі адбыліся паспяховыя дэбюты У.Карэніхінай, І.Захарава, І.Уварава, Д.Дразда, В.Варэннікавай і іншых. Свой новы шосты сезон галерэя таксама адкрыла выставай маладых фатографаў, выпускнікоў навучальнай студыі пры народным фотаклубе "Мінск". Свае міні-серыі прадставілі Андрэй Васкрасенскі, Кацярына Герасянкова, Наста Гаруновіч, Кацярына Гуртавая, Аляксандр і Наталля Яўмененкі, Андрэй Калеснікаў, Павел Касцюковіч, Дар'я Юркевіч, Алена Крайко, вядомая па публікацыях у альманаху "Маналог". У навучальнай студыі ўсіх іх з'ядната жаданне навучыцца прафесійна валодаць "фотазрокам". Здаецца, за год ім гэта ўдалося. Іх "фотапробы", нез'яднаныя зададзенай тэмай, трымаюцца ў межах традыцый мінскага фотаклуба. Але тым не менш яны цікавыя тым, на чым і як акцэнтуюць маладыя аўтары свой погляд, якімі выразнымі сродкамі сучаснай фатаграфіі яны карыстаюцца. Пробныя адбіткі ў маладых аўтараў атрымаліся выніковымі, лічыць Уладзімір Парфянок. Думаецца, што наступныя выставы ў новым сезоне галерэі, заяўленыя яе кіраўніком, пакажуць і майстар-класы.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

гульні-мазаікі на тэму Германіі, печыва з сюрпрызам, пакой гукаў і інтэрактыўных гульняў... Асобную залу займае вялікі лабірынт, дзе кожны крок пазначаны новым нямецкім дыялогам з характэрнай для згаданай сітуацыі гукавою аздобаю.

Выстава не рыхтавалася спецыяльна для Нацыянальнай бібліятэкі РБ, проста ў Мінску не знайшлося вольнага памяшкання, дзе магла б размясціцца такая вялікая экспазіцыя. Выстава прызначана не толькі для сталых наведвальнікаў бібліятэкі, але і для ўсіх хто хоча. Для школьнікаў прапануюцца экскурсіі, моўныя віктарыны з прызамі. Дарэчы, на выставе прадугледжаны віктарыны і для дарослых, якія добра валодаюць нямецкай мовай.

**Н. Ш.**

УРАЖАННЕ

# Што ні акцёр — тэатр!

## "ЛЯТУЧАЯ МЫШ" Ягана ШТРАУСА ЗНОЎ НА МІНСКІХ АФІШАХ

Гісторыя вяртання славутай аперэты ў рэпертуар Дзяржаўнага музычнага тэатра Беларусі вымушае не злоўжываць словам "прэм'ера". Чаму — зразумець няцяжка. "Лятучая мыш" апынулася нібыта па-за шэрагам прэм'ер музычна-тэатральнага сезона з тае прычыны, што на замоўленую раней цалкам новую пастаноўку не хапіла сродкаў, і каб не страціць з планаў даўно чаканую назву (чаканую і гледачом, і самімі артыстамі), давялося рабіць узнаўленне колішняга спектакля.

Мала знойдзецца ў Мінску людзей, якія дэталёва памяталі б той спектакль: усё ж такі амаль паўтара дзесятка гадоў мінула, як сышоў ён з афіш. Хто ў такіх сітуацыях самы памятлівы? Вядома, "старажылы" тэатра. Артысты! Адной з іх, Валянціне Пятліцкай, і дастаўся нялёгкі чын рэжысёра ўзнаўлення пастаноўкі 1981 года. Балазе, сцэнічны малюнак тагачаснай "Лятучай мышы" не вызначаўся эксперыментатарскімі штукарствамі. Рэжысёр А. Малчанаў, музычны кіраўнік-дырыжор І. Абраміс і яго малады калега А. Сасноўскі, мастак С. Кошкін, балетмайстар В. Бутрымовіч, хормайстар Н. Андросава ставілі класічную аперэту ў традыцыях тэатральнай практыкі, без наваццяў. (Дарэчы, добрым тонам выглядае напамін у сённяшняй праграмцы імёнаў ствральнікаў таго спектакля).

Адчуванне рамантыкі жанру, шчыры і кранальны "старамодны" стыль мізансцэн, спрыяльны для больш выразнага раскрыцця псіхалогіі персанажаў, для максімальнай рэалізацыі акцёрскага і вакальнага майстэрства, — усё гэта ці дасталося новай "Лятучай мышы" ў спадчыну ад яе папярэдніцы, ці нарадзілася ў творчай працы цяперашняй пастановачнай групы. Апроч В. Пятліцкай, над узнаўленнем спектакля працавалі Генадзь Праватораў (музычны кіраўнік і дырыжор), Яўген Ждан (кіраўнік аднаўлення сцэнаграфіі), Вольга Жалонкіна (аўтар ужо зусім новых сцэнічных касцюмаў), хормайстар Святлана Пятрова, балетмайстар Ніна Дзячэнка...

Акцёры!

Найперш яны сваёй ігрой, спевамі, пластыкай унеслі непаўторнасць, свежасць у чарговы перыяд ужо, відаць, бясконцага (класіка ж!) сцэнічнага жыцця старой добрай аперэты, мелодыі з якой і многія рэплікі знаўцы-паклоннікі трымаюць у сваёй памяці, нібы радкі са школьнай хрэстаматыі.

Найперш яны, злучыўшыся ў сапраўдны музычна-сцэнічны ансамбль на самым першым паказе ўзноўленага спектакля, так "завялі-раскруцілі" публіку, што... Што якім бы скептыкам ні пачуваў сябе глядач на пачатку дзеі, а трапіўшы ў палон абаяльнасці акцёрскага тэатра, ён апынуўся ў атмасферы сапраўднай прэм'еры!

Прэм'ернае ўражанне зазвычай цяжка паддаецца аналізу: хіба можна раздрабніцьпрэпарыраваць святочны настрой, радасныя эмоцыі? Гэта потым ужо ловіш сябе на думцы, што раскошная штраусаўская уверцюра пры закрытай заслоне падаецца зацягнутай, выкананай не надта ахайна, і ад недасканаласці аркестравага гучання магла б адцягнуць увагу нейкая сцэнічная карцінка, візуальны рух; што ніякі маэстра не здолее "перамагчы" фальш скрыпак, пакуль гэтага не зробяць самі музыканты; што жывы спектакль не застрахаваны ад тэмпарытмічных збояў у злучэнні сцэнічнай дзеі з музыкай, спевамі, танцам...

Переважаюць, аднак, іншыя думкізгадкі, звязаныя, зноў жа, з акцёрскімі адкрыццямі. У той прэм'ерны вечар вяло рэй сапраўднае сузор'е артыстаў. І кожны, з прафесійнай годнасцю, пачуццём жанру, меры мастацкага густу і "тэмпературы" ў зале, увасабляў сабою Тэатр.

Для мяне было неспадзяваным адкрыццём не столькі, можна сказаць, рэжысёрскі дэбют В. Пятліцкай, як яе акцёрская работа ва ўзноўленай "Лятучай мышы". Маладая, энергічная, спакуслівая, трошку даверлівая, трошку хітраватая разумніца-пакаёўка Адэль у выкананні В. Пятліцкай трымаецца на роўных з героямі гэтай чароўнай, дасціпнай, гуллівай і сентыментальнай карнавальнай гісторыі пад назвай "Лятучая мыш". Дай Бог актрысам новага пакалення гэтак жа добра "трымаць форму" і захоўваць голас, які ўражвае чысцінёй інтанацыі, пластычнасцю фразіроўкі, тонкай філіроўкай гуку!

У В. Пятліцкай — выдатныя, чулыя партнёры. Найперш — Л. Кузьміцкая ў ролі гаспадыні дома, жаноцкай, ласкавай, рахманай, крыху інфантыльнай прыгажуні Разалінды, якая пад маскай таямнічай начной істоты ператвараецца ў пяшчотную і драпежную "інфернальніцу", абуджае інстынкт "вечнага паляўнічага" ва ўласным мужу, што ўрэшце сам жа трапляе ў бліскучую пастку. Мяккая і дакладная манера ігры, выразны вакал...

Генрых Айзенштэйн. Гэты вобраз увасабляе адзіны на ўсе выканаўчыя склады В. Бажэнаў. Жыццялюб, жартаўнік, шукальнік прыгод, безабаронны ў сваёй закаханасці, самавіты "мацак" з душою хлапчука... Генрых В. Бажэнава — пераканальны "герой рамана", увасабленню якога дапамагае найперш прыгожы, выкшталцоны голас артыста (жанчыны ж, як вядзецца, "кахаюць вушамі!"). У яго адмысловы сапернік, "воздыхатель" Разалінды Альфрэд: віртуозная акцёрская работа В. Мінгалёва, уражанне ад якой не сказаць каб надта псуюць відавочныя праблемы з голасам.

Яшчэ адно прэм'ернае адкрыццё — Фальк у выкананні Э. Мартынюка. Вось ужо сапраўды — чалавек-Тэатр! Беспардонны, востры на язык, самаўпэўнены, але прытым і крыху баязлівы, фантазёр, балбатун... Дзіва што: Фальк — дырэктар тэатра! Пры гэтым Э. Мартынюк не правакуе рогат залы, не спрабуе рабіць са сваіх маналогаў ды рэплік устаўныя сольныя нумары, застаючыся зоркай у сузор'і. А грань паміж так званымі размоўнымі зонамі ды вакалам у яго амаль празрыстая, нібыта і не заўважаеш, як Фальк-Мартынюк скончвае гаманіць і пачынае спяваць: так арганічна і выразна гэта ў яго атрымліваецца! І дыкцыя выдатная, і голас інтанацыйна багаты. А ўжо мiміка...

Прэм'ерны ансамбль "Лятучай мышы" быў бы бяднейшы на акцёрскія фарбы, калі б не сталае майстэрства В. Сердзюкова ў ролі бядотнага адваката Бліндa, калі б не камедыйны дар А. Ранцанца ў вобразе дырэктара турмы Франка, калі б не высакародная стрыманасць сцэнічнай манеры А. Заянчкоўскага — хлебасольнага князя Арлоўскага. Калі б, урэшце, не зорны балетны дуэт Ю. Дзятко ды К. Кузняцова ў прыгожай сцэне вальса!

Складаныя вакальныя ансамблі ў сваёй музычнай выразнасці, дакладнасці выканання маглі калі-нікалі канкураваць з ансамблевымі сцэнамі ў спектаклях нашага акадэмічнага тэатра оперы. А іскрынкі акцёрскай ігры распальвалі захапленне публікі, жывым агеньчыкам асвятляючы, здавалася б, пакрытыя пылам драматургічныя сцяжынкі, на якіх артыстаў падпільноўваюць заштампаваныя вобразы, зацёртыя жарты.

Дайце веры, усё глядзелася-слухалася, нібы ўпершыню: і гісторыя з Эмай, "сабачкам Шульца", і спроба Альфрэда, загорнутага ў халат гаспадара дома, "зрабіць шчаслівай" засмучоную Разалінду, і розыгрыш Адэлі на княжацкім балі, і камічныя сцэны ў той сумнавядомай установе, дзе "калі нават ходзіш, дык усё адно — сядзіш", і любоўная гульня з удзелам Разалінды, Генрыха ды... ягонага гадзінніка...

Аперэту слушна параўноўваюць з шампанскім. Паспытаеш — і ўжо глядзіш на людзей са спагадлівай усмешкай, і жыццё ўспрымаеш лягчэй, і пачынаеш ідэалізаваць зямны свет, у якім, аказваецца, ёсць месца для моцных, прыгожых і чыстых пачуццяў.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**





*На здымках: Фальк — лаўрэат міжнароднага конкурсу Э. МАРТЫНЮК; князь Арлоўскі — А. ЗАЯНЧКОЎСКІ.*

*Фота В. ЗАЙКОЎСКАГА*

ВІНШУЕМ!

# З любоўю да роднай зямлі

## Міколу МАЛЯЎКУ — 60

***Зямляк і сябра Міколы Аляксандравіча вядомы паэт і празаік, дырэктар выдавецтва «Юнацтва» Алесь Камароўскі назваў паэтычны радок М. Маляўкі выверaным і важкім, які, "быццам бікфордаў шнур, вядзе... чытача, як да выбуху, да нечаканай высновы, да асноўнай думкі твора. Ад сваіх герояў, аднавяскоўцаў, паэт здолеў узняцца да праблем глабальных, праблем аднавякоўцаў: любові да роднай зямлі і прыроды, захавання гісторыі і спадчыны, роднай мовы, духоўнага пачатку чалавека". Лепш і не скажаш, а калі нешта і можна дадаць, дык тое, што талент М. Маляўкі невыпадкова такі яркі, светлы і жыццядайны. Нарадзіўся Мікола Аляксандравіч не проста на зямлі, надзіва багатай на таленты — на Стаўбцоўшчыне, а ў знакамітай коласаўскай Мікалаеўшчыне. Змалку ведаў, якая гэта вёска. Змалку далучаўся да паэзіі. І паэзіі ў яе паўсядзённасці — ведама, наколькі прыгожыя тамашнія мясціны. І да паэзіі праз фальклор. А галоўнае, чытаючы Якуба Коласа, іншых выдатных паэтаў. А паколькі меў талент, рана надрукаваўся: на старонкі "Чырвонай змены" выйшаў у 1957 годзе яшчэ старшакласнікам. Цяпер на яго мастакоўскім рахунку дзесяць паэтычных кніг для дарослых і пяць для дзяцей. Каторую з іх ні возьмеш, зайздросціш уменню Міколы Аляксандравіча ствараць адпаведны настрой, пісаць лёгка, нязмушана. Ды як жа інакш, калі даўно стаў прызнаным Майстрам у паэзіі (з'яўляецца лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова). І не зважаючы на пастаянную занятасць (з 1980 года працуе ў рэдакцыі часопіса "Вясёлка"), па-ранейшаму знаходзіць час, каб напісаць новыя творы. А іх сабралася нямала: падрыхтавана новая кніга вершаў, гатова унікальная міні-энцыклапедыя для дзяцей пра старажытныя рэчы "Сядзіба, або Хата з матчынай душою". А яшчэ больш задумак...***

***З 60-годдзем, шаноўны Мікола Аляксандравіч! Новых вам жыццёвых вёсен, нязменных творчых поспехаў!***

Мікола МАЛЯЎКА



### Душа шчыміць ад болю...

### Плыву ў зіму...

*Дзівіўся я*
*Ў вясны далёкай дні:*
*Які маленькі свет!*
*Аб'ехаць можна*
*На кані*
*Ці сеўшы*
*На веласіпед.*

*Мой век,*
*Сталеючы,*
*Падняў паволі*
*Зямлі аўтарытэт —*
*Ад трактароў у полі*
*Да касмічных*
*Караблёў-ракет.*

*Дзіўлюся я,*
*Узняўшы галаву:*
*Які вялікі свет!*
*Плыву ў зіму,*
*Усё далей плыву —*
*За воблачкам*
*Услед.*

•

*Зямля бацькоў маіх,*
*З табой я кожны міг*
*І сэрцам, і душой —*
*Ты лёс шчаслівы мой.*

*Святла, цяпла хачу,*
*Ды ўвосень не лячу,*
*Як бедны журавель,*
*За трыдзевяць зямель.*

*Ты мне дала імя,*
*Каб не згубіўся я*
*За выраю мяжой —*
*З душой ужо чужой.*

*І радасць, і бяду*
*На твой алтар кладу —*
*З табой я кожны міг,*
*Зямля бацькоў маіх.*

### Забытая хата

*З новых бёрнаў, як цуд,*
*Хата цешыла вока.*
*І спявалі, і плакалі тут,*
*Карані пусціўшы глыбока.*

*Хаце спрыяў апякун —*
*Добры дух чалавечы,*
*Жыў у запечку цвыркун,*
*Кот мурлыкаў на печы.*

*Час зямны праляцеў*
*Для бацькоў — у нястачы,*
*А ў далёкіх дзяцей*
*Ёсць кватэры і дачы.*

*Знізу да верхніх вянцоў*
*Гіне ціхая хата,*
*Не знайшлося кущоў,*
*Быццам лёсам пракпята.*

*Пограбам, як на кладах,*
*Дыхае без чалавека,*
*Хутка рухне і дах,*
*Як спарахнелае века.*

*З хат вясковых адна —*
*Страціла звонкую сілу —*
*І стаіць, як труна,*
*Не апушчаная ў магілу.*

### Санет

*Пакінуў бацька нам зялёны бор,*
*Палетак жытні, сад з пчалою рупнай,*
*Квяцісты луг, прапахлы мятай-рутай,*
*Пакінуў бацька нам, калі памёр.*
*Далёка ад зямных палёў, азёр*
*Не знае, што чарнобыльскай атрутай*
*Засыпан родны край... І не пакутуе*
*Душа яго спакойная ля зор.*

*А мо душа якраз шчыміць ад болю,*
*Бо знае бацька ўсё пра нашу долю —*
*І ў час, калі анёлы нават спяць,*
*На свеце тым, за вечнасці парогам,*
*Ён непакоіцца за нас, відаць,*
*Спрыяе нам, заступнік перад Богам.*

### Не пазнаю дзяцей

*У вёсцы роднай*
*Знаю ўсе сядзібы,*
*Старых людзей,*
*Калодзежы*
*І ліпы.*

*Дзіўлюся толькі,*
*Седзячы на лаўцы:*
*Не пазнаю*
*Маленькіх*
*Мікалаўцаў.*

*Гляджу,*
*Маіх равеснікаў унукі*
*Бяруць ужо*
*Сваіх дзяцей*
*На рукі.*

*Падкажа часам нос,*
*На твары — рыска,*
*Якая хата*
*Ў вёсцы*
*Іх калыска.*

*Праходзяць міма*
*Дзеці-мікалаўцы,*
*Не заўважаючы*
*Мяне*
*На лаўцы.*

*Я на сябе гляджу*
*Дзяцей вачыма:*
*Для іх і я*
*Чужы дзівак,*
*Магчыма.*

### Лісток вішнёвы

*Святла няма ў акне:*
*Ад шэрых хмар,*
*Ад непагоды —*
*Дзень як вечар.*
*І на душы ў мяне*
*Таксама змрочна:*
*Дождж ідзе,*
*Гуляе вецер.*

*Халодны час усё ж,*
*А я акно ў гародчык*
*Расчыніць гатовы —*
*Прыбіў да шыбы дождж,*
*Нібы паштоўку яркую,*
*Лісток вішнёвы.*

*Тужлівы час міне,*
*Жыццё і свет аздобяць*
*Снежныя абноўкі.*
*І на душы ў мяне*
*Святлее і цяплее*
*Ад лістка-паштоўкі.*

*Зямля ў двары, як глей,*
*І дрэвы чорныя стаяць,*
*Хоць рэж на дровы, —*
*Ды ўсё-ткі весялей*
*Глядзець на свет*
*Праз гэты вось*
*Лісток вішнёвы.*

### Юбілейнае прысвячэнне

Лянгіне Міхайлаўне ЦВІРКА

*Мы сваіх настаўнікаў не цэнім,*
*А яны, працуючы на час,*
*Цэлы век,*
*Да пенсіі сумленнай,*
*Вучаць і падтрымліваюць нас.*
*Дбалі вы,*
*Настаўніца ад Бога,*
*Пра дзяцей, пра іх духоўны хлеб.*
*Апякалі і мяне —*
*Малога,*
*І пазней, калі душой акрэп.*
*Памяць зноў у кадрыках пакажа,*
*Бы дакументальнае кіно,*
*Як гарэла,*
*Гледзячы на ваша,*
*І маё бяссоннае акно.*
*Па вайне,*
*Асірацеўшы рана,*
*Вы жылі за нас не багацей.*
*Не было для вас бацькоў абраных,*
*Не было для вас чужых дзяцей.*
*Ушчуваннем,*
*Ласкавай усмешкай,*
*Словам дарагім, як запавет,*
*Вы спрыялі, каб сваёю сцежкай*
*Кожны з нас ішоў у новы свет.*
*За духоўны хлеб у роднай школе,*
*За свайго ўжо апякунства стаж*
*Вам удзячны я,*
*Маляўка Коля, —*
*Пасівелы выхаванец ваш.*
*І цяпер прыемна на падворку*
*Пахвалу пачуць ад вас найперш,*
*Быццам мне паставіце пяцёрку*
*За любоў да кніг,*
*За добры верш.*
*Рады я,*
*Што ціхім адвячоркам*
*Не ў мінулых кадрыках кіно,*
*А ў жыцці гарыць яшчэ,*
*Як зорка,*
*Ваша мікалаўскае акно.*

### Пачуй мой шэпт...

Веры

*Дажджы вясновыя*
*Над краем праліліся,*
*Зазелянела ў гаі*
*На бярозах*
*Лісце.*

*Калі ідзеш у гай,*
*Калі выходзіш з гаю,*
*Я лісцем трапяткім*
*Табе шапчу:*
*"Кахаю..."*

*Пачуй мой сумны шэпт —*
*І ласкава ўсміхніся,*
*Пакуль не анямела,*
*Абляцеўшы,*
*Лісце.*

### Не спявайце з голасу чужога

*Не спявайце з голасу чужога,*
*Не маўчыце з выглядам нямога,*
*А заўсёды, дома і ў гасцях,*
*Падымайце голас свой, як сцяг.*

*Не спявайце з голасу чужога,*
*Не рабіце з запявалы Бога,*
*Трацячы сумленне і запал*
*У дзяржаўным хоры падпявал.*

*Не спявайце з голасу чужога,*
*Не прамая — выбару дарога,*
*І, магчыма, зможаце рашыць,*
*Як у веку новым будзем жыць.*

*Не спявайце з голасу чужога,*
*Каб не стала здрадай перамога,*
*Кожны дзень, адпрэчваючы страх,*
*Падымайце голас свой, як сцяг.*

ДРУК

# "Крыніца" № 71 (11-12)

Выйшаў з друку апошні (з фінансавых прычынаў здвоены) нумар часопіса "Крыніца" за 2001 год.

Як заўсёды чытачам часопіса прапануецца даволі шырокі спектр тэкстаў культуралагічнага і літаратурна-мастацкага кшталту.

Адразу пра тое, што тычыцца нацыянальнага літаратурнага працэсу.

У рубрыцы "У НАС" паэзія прадстаўленая нізкамі новых вершаў нашых пастаянных аўтараў Віктара Шніпа і Юркі Голуба. Аднак друкуецца шмат спадарожных ім аўтараў аднаго арыгінальнага верша ў рубрыцы "Я маю твор...", сярод якіх ужо вядомыя Наталля Кучмель і Алесь Макрацоў, а таксама дэбютанты часопіса Людміла Кебіч, Святлана Варонік, Таіса Мельчанка, Наталля Бурдзейка і Галіна Дашкевіч. У жанрава прымыкаючай да іх рубрыцы "ЯНО" ўпершыню друкуюцца іранічныя трохрадкоўі Анатоля Цыркунова. Ажно да арытміі і белых вершаў...

З айчыннай малой прозы ў рубрыцы "У НАС" апублікаваныя аповеды Навума Гальпяровіча, Галіны Каржанеўскай (вытрымкі з дзённіка) і дэбютныя мініяцюры Сяргея Украінкі.

У рубрыцы "НАША" прадстаўленыя погляды беларускіх літаратараў на гэтак званае "філалагічнае пакаленне". На пытанні анкеты часопіса адказваюць Міхась Тычына, Серафім Андраюк, Васіль Зуёнак, Алена Васілевіч, Мікола Мішчанчук, Ала Сямёнава, Алесь Бельскі, Анатоль Вярцінскі, Галіна Тычка, Ганна Кісліцына і, заўчасна пакінуўшы нас, Віктар Каваленка.

Рознапалярнасць поглядаў, як і іх супадзенне, даюць чытачам падставы для ўласнай трактоўкі літаратурнага-грамадскага працэсу сярод пісьменнікаў-філолагаў на мяжы 60-80-х гадоў мінулага стагоддзя...

Шырока прадстаўленыя і замежныя "постаці", сярод якіх на самым «покуце» апынулася расійская сучасная выбітная паэтка багемнага кшталту Вольга Седакова. Гутарку з ёй зрабіла Галіна Дубянецкая, а вершы пераклала Марына Куноўская. Арыгінальнае эсэ паэткі "Пахвала паэзіі" пераклала Наталля Кучмель. "Абрамілі" сваімі тэкстамі "постаць" Вольгі Седаковай Ядвіся Квяткоўская, Дзмітрый Строцаў, Віктар Капыцько, Мікола Кірэеў, Сяргей Аверынцаў і Людка Сільнова. Атрымалася даволі самабытна, у меру эзатэрычна і дастаткова арыгінальна...

У рубрыцы "ЯНЫ" часопіс працягвае знаёмства чытачоў з шырокавядомай на Захадзе пачынальніцай англійскага мадэрнізму пісьменніцай Вірджынія Вульф, прадставіўшы яе творчасць чатырма навеламі ў дабротных перакладах таямнічай V.K.

І нарэшце ў рубрыцы "ЁН" прэзентаваны наш «замежны зямляк» (з роду Кастравіцкіх па мацярынскай лініі, а да таго ж — недалёкі сваяк паэта Каруся Каганца) «напаўбеларускі француз» Гіём Апалінэр. Прозу і вершы "бацькі новага мастацтва" пераклалі Лявон Баршчэўскі, Леанід Дранько-Майсюк ды Андрэй Хадановіч. Цёпла і фактурна пра яго сказалі Марыя Прохар і Канстанцін Міхееў...

Як на мой погляд, то ёсць што пачытаць і традыцыйным "спажыўцам" літаратуры, і «гурманам»...

То што ж замінае — выпісвайце часопіс "КРЫНІЦА" (індэкс: 74824; кошт падпіскі на шэсць месяцаў — усяго 6000 рублёў, смешная цана за такое дарагое чытанне!).

І ўвогуле, каб не засушыць наш род на корані, захаваем КРЫНІЦУ нацыянальнага інтэлекту, як спрадвечны рухавік нацыянальнай культуры... Чым не нагода для народнай складухі:

***Каб з розумам жыць,***
***а не жыць на дурніцу,***
***Чытайце й выпісвайце,***
***людзі, "КРЫНІЦУ"!***

**ЛеГал**

 ЧАСАПІС

## Да сяброў на свята

Паэтку Таісу Мельчанку і мяне запрасіў на свята ў Чарнігаў старшыня абласной рады Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны Станіслаў Рэп'ях. Мелася адбыцца вечарына з нагоды 25-годдзя яе ўтварэння. Станіслаў Апанасавіч, добры паэт і цудоўны чалавек размаўляе, дарэчы, і па-беларуску, а раней выпісваў тыднёвік "Літаратура і мастацтва", таму мы сабралі яму бібліятэчку кніг нашых пісьменнікаў, везлі часопісы і некалькі асобнікаў газеты, якую сёння па зразумелых прычынах не можа атрымліваць. Адрас сустрэчы — музей Міхайлы Кацюбінскага. І вось мы ў Чарнігаве.

На свята сабралася шмат літаратараў, як членаў творчага саюза, так і тых, хто мае пэўныя набыткі ў літаратуры, але па розных прычынах яшчэ не прыняты ў гэтую творчую арганізацыю. З Кіева прыехала цэлая дэлегацыя пісьменнікаў — сам старшыня рады Нацыянальнага саюза пісьменнікаў, вядомы празаік і публіцыст Уладзімір Яварыўскі, яго намеснік Алесь Лупій, галоўны рэдактар "Літаратурнай Украіны" Васіль Плюшч, паэт Міхась Шаўчэнка і іншыя. З Бранска завіталі на свята паэты Уладзімір Сарочкін і Аляксандр Уласаў. Цікавімся, што новага ў іх, што ў нас. Перадаю прывітанне вядомаму драматургу Яраславу Стэльмаху, з якім разам некалі былі на ўсесаюзным семінары ў Піцундзе, і даведваюся пра самае страшнае — Яраслава Міхайлавіча, дарэчы, сына вядомага украінскага пісьменніка Міхайлы Стэльмаха, ужо, на вялікі жаль, няма сярод нас: трагічна загінуў у верасні, паўтарыў сюжэт аднаго з герояў сваёй п'есы — разбіўся і згарэў у аўтамабілі...

А на свяце, дзе і нам з Таісай давялося сказаць свае слова (і зрабілі гэта мы, спадзяюся, шчыра і годна), усе кіраўнікі мясцовых выканаўчых улад размаўлялі на сваёй роднай мове. Як і пісьменнікі. Нам заставалася пазайздросціць. Чарнігаўская пісьменніцкая арганізацыя — гэта такія імёны, як паэты Кузьма Журба, Дзмітрый Куроўскі, Мікола Туркіўскі, празаікі Вілій Маскалец і Надзея Пятрэнка, крытыкі і літаратуразнаўцы Павел Сярдзюк, Сцяпан Пінчук, перакладчык Мікола Слаўяцінскі, якія стаялі ля вытокаў стварэння пісьменніцкай арганізацыі. Іх было дзесяць чалавек. На пяты ім, як адзначыў С. Рэп'ях, наступалі паэты Дзмітрый Іваноў, Васіль Будзённы, Пятро Куцэнка, Таіса Шапаваленка, празаікі Уладзімір Кезлі, Пятро Дзідовіч, Іосіф Паўлаў, Барыс Нарыжны, драматург Анатоль Ларчанкаў. Сёння ў творчым саюзе вобласці каля трыццаці літаратараў. Плённа працуюць таксама Мікола Адаменка, Станіслаў Марынчык, Валянціна Масцерава, Косць Маскалец, Сяргей Дзюба, Кацярына Дужа, Мікола Халодны, Іван Шаўчэнка і іншыя.

Усё было, як на спраўдным свяце. Віншаванні. Уручэнне ўзнагарод. Абласная адміністрацыя выдзеліла мэтавым накірункам даволі значную колькасць грошай на выданне кніг мясцовых аўтараў. Такія намеры, прызнаюся, існуюць і ў Гомелі. Спадзяёмся, што нас падтрымае старшыня аблвыканкама А. Якабсон. Лепшыя кнігі нашых пісьменнікаў трэба выдаць. Бо ўсё мінаецца, а напісанае застаецца.

Гомельскія літаратары даўно сябруюць з чарнігаўскімі, правялі шмат сумесных свят і сустрэч з чытачамі. На Чарнігаўшчыне цёплым словам згадваюць Леаніда Гаўрылкіна, Івана Сяркова, Міколу Янчанку, якіх, на жаль, ужо няма сярод нас, але якія ахвотна наведвалі ў свой час суседзяў, радавалі іх сваёй творчасцю. Пазней наведваць Чарнігаўшчыну пачалі мы, маладзейшы: Таіса Мельчанка, Віктар Ярац, Ніна Шклярава, Сяргей Сыс. У бліжэйшы час літаратурны дэсант гамяльчан высадзіцца ў Чарнігаве — дамовіліся правесці дзве сустрэчы з чытачамі ва ўтульнай зале музея М. Кацюбінскага і мясцовым універсітэце. А мы, гамяльчане, такі дэсант ужо прымалі раней. Да таго ж, у 2002 годзе на Гомельшчыне (кіраўніцтва вобласці падтрымала нашу ініцыятыву) чакаем чарнігаўцаў на свяце "Над Дняпром, Дзяснай і Сожам".

Ёсць і іншыя сумесныя праекты.

**Васіль ТКАЧОЎ,**
старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў

УГОДКІ

# Як азонавае паветра...

## Сцяпану АЛЕКСАНДРОВІЧУ споўнілася б 80 гадоў

Адна з кніг Сцяпана Хусейнавіча Александровіча называецца "Пуцявіны роднага слова" і мае падзагаловак: "Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX ст.". У аснову яе пакладзена доктарская дысертацыя С. Александровіча. Кніга цікавая (як, зразумела, і першаасНова яе) тым, што даследчык упершыню шырока і надзва аб'ектыўна разгледзеў стан нацыянальнага прыгожага пісьменства згаданага перыяду, не абмінуўшы увагай і тое, што з'яўлялася на старонках нямногіх перыядычных выданняў, якія зместам сваіх публікацый даказвалі: ёсць такі народ, беларусы, ёсць тыя, хто хоча "людзьмі звацца".

Праблематыка, якую закрануў С. Александровіч, на той час вымагала немалой смеласці. Куды прасцей было напісаць як дзякуючы ці то Леніну, ці то партыі беларуская літаратура дасягнула росквіту, і паспяхова абараніцца. Дарэчы, так многія і рабілі. Нават некаторыя з сённяшніх "дактароў-адраджэнцаў" у свой час "доктарскі вянок" атрымалі, усслаўляючы развіццё нацыянальных адносін у Савецкім Саюзе і адпаведна апяваючы, як дзякуючы гэтаму беларускі народ стаў роўным сярод роўных. Сёння ж яны, перафарбаваўшыся, тое што хвалілі, як могуць бэсцяць.

Бог ім суддзя, я не пра іх. Я пра Сцяпана Хусейнавіча — чалавека крыштальнай чысціні і адкрытага, шчодрага сэрца, дабрэйшага з дабрэйшых, уважлівейшага з уважлівых. Ён вельмі цудоўна спалучаў у сваёй асобе педагога (будучы ўжо вядомым літаратарам, у аўтабіяграфіі "Радзіма мая — Капыль", напісанай 4 сакавіка 1965 года, прызнаваўся: "Я і сёння лічу сябе выкладчыкам роднай літаратуры сярэдняй школы"), настаўніка ў самым шырокім значэнні гэтага слова (настаўнік — ад настаўляць, а не толькі вучыць), празаіка, даследчыка літаратуры. І ўсё гэта гарманічна паяднаўвалася, бо ён з'яўляўся чалавекам вялікай эрудзіраванасці, культуры, тым інтэлігентам, пра якіх у дарэвалюцыйны перыяд казалі, што яны народныя інтэлігенты.

А каб быць народным інтэлігентам, мала мець адпаведную адукацыю, недастаткова для гэтага і самых высокіх навуковых ступеней. Трэба яшчэ тое галоўнае, з чаго пачынаецца народны інтэлігент і што фарміруе яго як індывідуальнасць, асобу. А гэта — повязь з жыццём народа. Гэта — тая вялікая ўнутраная культура, каб дасягнуць якой мала перачытаць тамы, сотні тамоў рознай літаратуры. Яна прыходзіць з таго асяродка, у якім дзіця выхоўваецца, спасцігае першыя азы жыцця.

Такім асяродкам для Сцяпана Хусейнавіча была сям'я, а таксама людзі, якія завітвалі да яго бацькі, які цудоўна вырабляў аўчыны. Як успамінаў С. Александровіч, "у бацькі была свая "парафія". Да яго прывозілі аўчыны са Сцяпур, Калодзезнага, Жавалак, Вялікай і Малой Раёвак, Кудзінавічы, Какорыч. Там было многа добрых знаёмых і сяброў. Яны прыязджалі, распрагалі коней ля нашай хаты, садзіліся за стол — і пачыналася бяседа. Госці прывозілі нам, дзецям, гасцінцы: яблыкі, арэхі ці гарбузікі. Любіў я гасцей яшчэ і за тое, што на іхніх санках можна было пад'ехаць на кірмаш і вярнуцца назад або праехаць да крыжа, што стаяў за нашым агародам".

Гэтыя прыезды былі звязаны і з расповедам цікавых гісторый, са згадкамі аб розных здарэннях. Усе адчувалі сябе нязмушана, не зважаючы на тое, што разам збіраліся беларусы, рускія, яўрэі, а сам Хусейн Александровіч быў беларускім татарынам: "У Капылі здаўна жыла жменька нашчадкаў мангольскіх плямён... У этнаграфічным абліччы мясцовых татар захаваліся яшчэ ўсходнія рысы, сяк-так ляпілі свае звычаі і абрады, але родную мову яны ўжо даўно страцілі і гаварылі па-беларуску".

Калі можна так сказаць, "капыльскі інтэрнацыянал" у многім спрыяў таму, што С. Александровіч змалку зразумеў: няма народаў лепшых, горшых, ёсць добрыя людзі і благія. На шчасце, ён напаткоўваў больш лепшых. А да іх адносіліся і пісьменнікі, выхадцы з Капыля, з якімі кантактаваў з ранніх гадоў. І з Цішкам Гартным — з ім быў асабіста знаёмы бацька Сцяпана Хусейнавіча. І Алесем Гурло: "малодшая сястра паэта жыла тады па суседстве... на Какорыцкай вуліцы". А Ц. Гартны і А. Гурло часта наведваліся на радзіму. Быў яшчэ і цалкам "свой" паэт — Рыгор Чарнушэвіч, якога капыляне называлі Філосаў — невядома хто даў яму такую мянушку. Р. Чарнушэвіч пісаў вершы, якія зрэдку друкаваліся ў раённай газеце.

А тут яшчэ ў верасні 1935 года ў восьмы клас Капыльскай сярэдняй школы паступіў Аляксей Коршак, які, як высветлілася, таксама піша вершы. Прайшло колькі часу, і з'явілася ў сяброў цікавая задумка: "Аднойчы Аляксей прапанаваў выпускаць рукапісны літаратурны часопіс. Мой брат добра маляваў, ён заняўся афармленнем. Коршак, я і яшчэ некалькі хлопцаў далі вершы, апавяданні, гумарэскі, — так з'явіўся першы нумар "Юнага племя".

Любоў да літаратуры і прадвызначыла далейшы жыццёвы шлях С. Александровіча. У верасні 1939 года ён паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Аднак правучыўся толькі нейкі месяц — прызвалі ў армію. І падумаць не мог, што універсітэт давядзецца закончыць толькі ў 1950 годзе, прытым завочна: "...жыццёвы тэмп быў незвычайны: у 18 год я быў у арміі, у 20 — на фронце, у 21 — у палоне".

Палон — гэта лагер "у Крывым Розе, стограмоўка хлеба, шклянка эрзац-кавы, нясоленая баланда з гнілых цукровых буракоў ці кукурузнага шалупіння". Каб не адважыўся на ўцёкі, загінуў бы. Але ледзь не загінуў і дабіраючыся ў Капыль. Разам з сябрамі знаходзіўся ў дарозе амаль два месяцы. Знясілеў так, што "ў вёсцы Сярэднікі пад Слуцкам зваліўся з ног. Адзін дзядзька зліtаваўся і прывёз... ледзь жывога ў Капыль. Было гэта ў кастрычніку 1942 года".

Пачаўся, кажучы словамі самога Сцяпана Хусейнавіча, "дамашні арышт": "З хаты не выпускала хвароба, баяўся... і чужога вока". Акрыяўшы ж, наладзіў сувязь з партызанамі. Спачатку быў членам капыльскай падпольнай групы, а пасля перайшоў у атрад, у якім і сустрэў вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Адразу паўстала пытанне, што рабіць далей. Вырашыў працаваць настаўнікам, а вучыцца завочна. Зноў жа і падумаць не мог, што настаўнічанне надоўга, на цэлыя чатырнаццаць гадоў: у Навасельненскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна, у Навагрудку, у Мінскім бібліятэчным тэхнікуме.

У 1946 годзе — тады выкладаў у Навагрудскай беларускай сярэдняй школе № 1 — выступіў са сваімі першымі матэрыяламі ў рэспубліканскім друку. Дэбютаваў у пятым-шостым нумары часопіса "Беларусь" нататкай "Кравецкі жаргон". Шкадую, што даведаўся я пра яе нядаўна, а яна ж проста "просіцца" ў гісторыка-дакументальную хроніку Капыльскага раёна "Памяць", якую я ўкладаў і якая паспела выйсці ў выдавецтве "Беларуская навука". У нататцы прадстаўлена лексіка семежаўскіх жабракоў, а сваю ж мову мелі яшчэ і капыльскія краўцы, гарбары. Толькі хіба хто прыгадае сёння тыя словы! Аказваецца, іх у свой час занатаваў Сцяпан Хусейнавіч.



Іншыя яго публікацыі ў "Беларусі" за 1946 год таксама мелі акрэслены гісторыка-краязнаўчы характар: ""Вёска Лоск" (№9), "Друкар Ілья Капіеўскі" (№10), а ў 7-м нумары за 1947 год — дзве аналагічныя публікацыі: "Б. Эпімах-Шыпіла" і "Пісьменнік і этнограф Павел Шпілеўскі". У 1946 годзе С. Александровіч упершыню надрукаваўся і ў "ЛіМе", з цягам часу стаўшы адным з самых актыўных аўтараў гэтай газеты, а пасля штотыднёвіка ў нумары за 8 чэрвеня змешчаны "ліст чытача" "Больш увагі літаратурнай спадчыне".

Думкі, выказаныя ім тады, надзіва актуальныя і сёння. С. Александровіч не пісаў на патрэбу дня, глядзеў наперад, дбаў пра нацыянальнае Адраджэнне, хоць, безумоўна, гэтыя словы ім не згадваліся. Ды і не маглі згадваца, не той час быў. Важна іншае: накірунак гаворкі, засяроджванне на праблемах, што патрабуюць свайго неадкладнага вырашэння. У дачыненні да нататкаў біяграфічнага зместу пра выдатных людзей, можна сказаць, што гэта па сутнасці пачатак публікацый, што з'яўляюцца сёння, пра землякоў, якія жылі ў розныя часы і шмат зрабілі як дзеля росквіту Бацькаўшчыны, так і на карысць іншых народаў.

Не варта забываць, што С. Александровіч пра гэта было пісаць цяжэй, чым іншым. Многія памяталі пра яго ваеннае мінулае, з якога пры жаданні можна лёгка зрабіць адпаведныя вывады. Добра ж вядома, як тады (ды і пазней) ставіліся да тых, хто знаходзіўся ў палоне. А тут мала, што былы палонны, дык яшчэ, можна сказаць, "нацыяналіст".

Іншы б на месцы С. Александровіча асцярожнічаў, знайшоў бы для матэрыялаў куды больш актуальную тэматыку. Ён жа шляхам прыстасавання ісці не хацеў. Ды і не мог, бо сумленным, прынцыповым застаўся на працягу ўсяго свайго жыцця. У жыцці ж творчым нязменна ішоў «пуцявінамі роднага слова». Пачынаючы з кандыдацкай дысертацыі «Янка Купала — майстра мастацкага перакладу», абароненай у 1958 годзе.

Хутка вызначыў ён асноўныя накірункі сваёй даследчыцкай працы: вывучэнне шляхоў развіцця і фарміравання беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, яе



С. Александровіч і Максім Танк, 1959 г.



Сям'я С. Александровіча, 1963 г.

ПАМЯЦЬ

# Планета Чыгрынава

Мне, як арганізатару літаратурных вечароў у Магілёве, давялося сустракацца з Іванам Гаўрылавічам неаднойчы, але гэтыя сустрэчы былі, так сказаць, дзяжурныя: прывітанне адзін аднаму і поціск рукі. Толькі тройчы ўдалося ўзяць аўтограф. Ды пастаялі разам ля магілы Пысіна. Моўчкі.

А так хацелася паслухаць ягонае грунтоўнае літаратурнае выступленне, як слухаў я кожнага пісьменніка, хто наведваўся ў Магілёў, і пагаварыць хоць колькі хвілін сам-насам. Выпала такая ўдача ў другой дэкадзе 1982 года. Іван Гаўрылавіч даў згоду на літаратурны вечар у абласной бібліятэцы на 11 мая.

Недзе ля поўдня я сустракаў яго ў аэрапорце "Магілёў". З І. Чыгрынавым быў вядомы літаратурны і тэатральны крытык Георгій Колас. Яго бачыў упершыню, але чуць давялося многа. Яны расказалі, што І. Чыгрынаў раней збіраўся ляцець у Лондан. Візу затрымалі. І сёння раненька пра гэта тэлефонны званок. Іван Гаўрылавіч спрасонку ім адказвае:

— У які Лондан? Мне ж у Магілёве трэба быць!

Пасмяяліся разам.

Іван Гаўрылавіч трымаўся проста, уважліва. Падалося нават, задаволены, што сустрэў яго. Сеў з Г. Коласам у машыну палкоўніка ДТСААФ Цярэнція Лакціёнава. Запрашалі і мяне. Каб не перашкаджаць дзелавой гутарцы (у Ц. Лакціёнава была нейкая справа да І. Чыгрынава і я ведаў пра гэта) і не цясніцца, сеў у машыну абласнога ўпраўлення культуры.

А палове сёмай вечара мелася адбыцца чытацкая канферэнцыя. І. Чыгрынаў незадоўга перад ёю моўчкі прайшоўся па вуліцы Дзяржынскага, засяродзіўся. Фотакарэспандэнт Віктар Кажамякін зразумеў яго настрой і зрабіў толькі адзін здымак.

Выступленне Івана Гаўрылавіча мяне прыемна ўразіла: гаворка свабодная, задушэўная і разам з тым канкрэтная, лагічная, слова — цікавая... 12 мая І. Чыгрынаў пасля выступлення ў школе ДТСААФ меркаваў з'ездзіць у вёску. А я агітаваў яго за літаратурны вечар у інстытуце: сказаў, што студэнты філалагічнага факультэта вельмі чакаюць яго.

І Іван Гаўрылавіч, падумаўшы, адказаў:

— Добра!

13 мая пайшлі туды загадзя, пешшу (Іван Гаўрылавіч сказаў, што ён ніколі нікуды не спазняўся). Па дарозе мы заглянулі ў букіністычны магазін. І. Чыгрынаў праявіў цікавасць да "Раман-газеты". Пацікавіўся, што ўвогуле ёсць з мастацкіх твораў, найперш беларускіх аўтараў. Затым па дарозе зайшла гаворка пра яго раманы. Расказаў мне, як два чыноўнікі-татарыны патрабавалі ад яго і не адзін раз выкінуць з кнігі старонкі пра паводзіны татарына-здрадніка. Не маглі адчапіцца да той пары, пакуль не сказаў ім:

— Калі будзеце і найдалей патрабаваць, то ў наступным рамане будзе дзейнічаць ужо рота іх.

Філфакаўцы сустрэлі цёпла. Дацэнт факультэта Яраслаў Клімуць даў слова Чыгрынаву. Іван Гаўрылавіч зрабіў літаратурнае выступленне, адказаў на пытанні. Мне і сёння помніцца тое-сёе:

— Гістарычная тэма ў мастацкай літаратуры — найважнейшая.

— "Свае і чужыя" — чыста філасофская катэгорыя. Чубар ад пачатку і да канца герой трагічны.

— "Апраўданне крыві" — зуб за зуб і вока за вока. Я супраць крыві. Вы і самі заўважылі: у маіх раманах мала крыві, хоць і пішу я пра вайну.

— Верамейкі — гэта Вялікі Бор, мая родная вёска ў Касцюковіцкім раёне.

— Мой кумір з паэтаў? Аркадзь Куляшоў.

— З празаікаў? Іван Мележ.

— З рускіх класікаў? Леў Мікалаевіч Талстой.

— Хто мой настаўнік? У літаратараў настаўнікаў няма. Настаўнік пісьменніка — уся літаратура. А самы галоўны настаўнік — жыццё.

Таксама хораша гаварыў Г. Колас. Ён умеў імправізаваць, падаць факт, сказаць прыгожа і эмацыянальна. Што ні кажы: тэатрал заўсёды тэатрал. Цікава пачаў пра акадэміка Каралёва. А далей нечаканы "віток":

— У беларускай літаратуры з'явілася новая планета — Іван Чыгрынаў.

А яшчэ Іван Гаўрылавіч віншаваў філфакаўцаў-выпускнікоў народнага універсітэта "Чалавек і кніга". Пра прапаганду кнігі сказаў:

— Гэта справа і пісьменнікаў, і настаўнікаў. Наша агульная справа.

Зачытаў выказванні А. Пысіна, П. Кавалёва і Л. Прокшы (скарыстаў мой



альбом аўтографаў пісьменнікаў "Слова пра кнігу і бібліятэку"). А. Пысіна і П. Кавалёва горача падтрымаў, а пра выказванне Л. Прокшы — "Самая цікавая кніга тая, якую прадаюць з падпрылаўка", — зрабіў вывад: "Тут няпраўда. Я з гэтым не згодзен".

У заключэнне ўручыў пасведчанні выпускнікам. Гэтага вельмі хацела сакратар абласнога таварыства кнігалюбаў Іна Зотава.

Іван Гаўрылавіч напачатку запярэчыў:

— Гэта ж роль вясельнага генерала!

Я падтрымаў просьбу Зотавай. Мне на падмогу прыйшоў і Я. Клімуць.

Падалося мне, што пасля Іван Гаўрылавіч і сам застаўся задаволены.

У нечым ён, здаецца, мне давяраў. Часам, перад тым як прыняць якое-небудзь рашэнне, пытаўся:

— А як думаеш?

— Што зробім?

Але аўтографы даваць не любіў. Мой альбом пісьменнікаў пра кнігу яму спадабаўся, толькі свой ставіць не стаў, хоць я і прасіў.

Не любіў Іван Гаўрылавіч і мітусні, мішуры, паказухі. Лічыў, што аднаго літаратурнага выступлення за дзень дастаткова. Калі ж тры ці чатыры, то будзе звычайная гаварыльня. Сам рабіў адну сустрэчу ў дзень. Затое яна запаміналася прысутным на ўсё жыццё.

Наконт мітусні зрабіў заўвагу Г. Коласу. А пасля, ужо адзін на адзін, сказаў мне:

— Тэатралы заўсёды шумлівыя. Георгій Колас натура экзальтаваная — не ведаеш, што ён выкіне праз хвіліну.

Тое ж самае сказаў і пра некаторых паэтаў.

**Віктар АРЦЁМ'ЕЎ**



*І. Чыгрынаў, В. Трыхманенка, вучэнні БВА "Бярэзіна", 1978 г.*



*В. Вітка, Я. Брыль, І. Чыгрынаў, А. Асіпенка, 1982 г.*

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## Запрашаем!

У апошняе дзесяцігоддзе дзякуючы падтрымцы Міністэрстваў адукацыі і культуры Рэспублікі Беларусь пачалася навуковая распрацоўка праблемы ролі і месца хрысціянскіх духоўных каштоўнасцяў у сучасным беларускім грамадстве. Каардынацыйную ролю выконвае Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі, які аб'яднаў сілы навукоўцаў з розных галін ведаў для распрацоўкі інтэграванай канцэпцыі развіцця беларускага грамадства. На працягу двух апошніх гадоў у цэнтры працуе аддзел "Праблемы хрысціянства і нацыянальнага развіцця", які праводзіць даследаванні па надзвычай важнай для грамадства тэме: "Уплыў хрысціянства на сучаснае беларускае грамадства". Для абмеркавання вынікаў навуковых распрацовак і новых ідэй у гэтай галіне будзе праходзіць навукова-практычны семінар на тэму "Хрысціянская духоўнасць і сучаснае беларускае грамадства", на які запрашаюцца навукоўцы, педагогі, прадстаўнікі хрысціянскіх канфесій, урада, СМІ, усе зацікаўленыя ўстановы і арганізацыі. Па выніках семінара плануецца выданне зборніка навуковых артыкулаў. Асноўныя вынікі абмеркавання і практычныя рэкамендацыі, выпрацаваныя на семінары, будуць накіраваны ў адпаведныя дзяржаўныя ўстановы і грамадскія арганізацыі.

**Запрашаем усіх да ўдзелу ў семінары.**

*Чакаем Вас 20 снежня 2001 г. а 14 гадз. у Доме літаратара па адрасе: г. Мінск, вул. Фрунзе, 5, авальная зала.*

ПАРОДЫІ

Анатоль ЗЭКАЎ

## Дачны курорт

Здзіўляюць модныя спакусы —
Пра гэта пішуць, не хаваюць,
Што новыя ўжо беларусы
Час бавяць толькі на Гаваях.

Ну, што ж... Я — не герой удачы,
Не гэтым чалавек шчаслівы.
Мне дастаткова маёй дачы,
Дзе ёсць і яблыні, і слівы.

Яўген КАРШУКОЎ

*Хай новы беларус удачу*
*Шукае недзе на Гаваях,*
*А я лячу штодня на дачу,*
*Гуркі і моркву паліваю,*

*Ў баразнах да начы рачкую,*
*Жукоў збіраю каларадскіх.*
*Надыдзе ноч — не сплю: цікую,*
*Каб аніхто не мог забраццa*
*У сад, дзе яблыкі і слівы*
*На голлі вецер калыхае.*
*Удасца ўпільнаваць — шчаслівы,*
*Не ўдасца — жонка распякае.*
*Чыхвосціць так — ажно спякотна,*
*Нібы на пляжы быў, няйначай...*
*І ўсё ж найлепшага курорта*
*Няма, чым загараць на дачы.*



**Увага! Конкурс для юных падпісчыкаў «Чырвонай змены» працягваецца!**

Абітурыент журфака-2002

**Палажэнне**

**Творчы конкурс праводзіцца з 1 верасня 2001 года па 30 мая 2002 года рэдакцыяй газеты «Чырвоная змена» і факультэтам журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.**

У конкурсе могуць прыняць удзел вучні выпускных (11-х) класаў сярэдніх школ, ліцэяў, гімназій рэспублікі, а таксама юнакі і дзяўчаты з сярэдняй адукацыяй, якія цікавяцца журналістыкай і збіраюцца паступаць на журфак у 2002 годзе.

**Творчы конкурс праводзіцца ў тры туры:**

**І тур** — верасень—лістапад (вынікі І тура падводзяцца ў снежні),

**ІІ тур** — снежань—люты (вынікі ІІ тура падводзяцца ў сакавіку),

**ІІІ тур** — сакавік—май (вынікі ІІІ тура падводзяцца ў чэрвені).

**Неабходна: раскрыць (на выбар) адну з тэм. (Тэмы ІІ тура змешчаны ў «Чырвонай змене» за 2 снежня.)**

Пераможца творчага конкурсу вызначаецца спецыяльнай камісіяй факультэта журналістыкі і рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» па выніках творчых работ.

Галоўнай узнагародай для пераможцы конкурсу з'яўляецца льгота пры паступленні на факультэт журналістыкі БДУ ў 2002 годзе: за пісьмовы экзамен «Творчае сачыненне» пераможца конкурсу аўтаматычна атрымлівае адзнаку «пяць/пяць».

*Пішыце! З нецярпеннем чакаем самых смелых думак.*

Аб'ём творчых работ — не больш за 5 аркушаў (10 старонак) са школьнага сшытка. Дасылайце іх на наш адрас:

**220013, г. Мінск, вул. Б.Хмяльніцкага, 10а, рэдакцыя газеты «Чырвоная змена», з пометкай «Абітурыент журфака-2002».**

**Дадатковая інфармацыя — па тэлефонах: 268-25-93, 268-29-45.**


ЛіМ — Літаратура і мастацтва. Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЗАСНАВАЛЬНІК

**ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Павел ВЕРАБ'ЁЎ,
Алесь ГАЎРОН — *адказны сакратар,*
Мікола ГІЛЬ,
Уладзімір МАРУК — *намеснік галоўнага рэдактара,*
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Яўген РАГІН,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-7985 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва — | 284-8462 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |
| Тэл./факс — | 284-7965 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856  Наклад 2587
Нумар падпісаны ў друк 13.12.2001 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 7308

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12